◂ № 1 (370) ◂ 10 студзеня ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**ТОДАР ЛЕБЯДА**

Стар. 14–15

**БЕЛАРУСАЎ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МЕНШ**

За апошнія дваццаць гадоў колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася на 1,2–1,3 мільёна чалавек. Памёр кожны дзясяты беларус

Стар. 5

**НАСТУП НА КУЛЬТУРУ: КІНО НЕ ДЛЯ ЎСІХ**

Падзеі ўсяго мінулага года падводзяць да думкі, што адмоўнаее стаўленне ўлады да гістарычнай памяці ператвараецца ў дзяржаўную палітыку

Стар. 6

**ЕЎРАМАЙДАН ДАЎ ЯНУКОВІЧУ ШАНС НА ПЕРААБРАННЕ**

Стар. 11

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ЦІ ПАЗБЕГНЕ БЕЛАРУСЬ ЛЁСУ БРЭТАНІ?**

Артыкул прафесара джорджтаўнскага ўніверсітэта Анджэя С. Камінскага

▸ З НАГОДЫ

# ЦІ ХОПІЦЬ У РАСІІ ГРОШАЙ?

*Сяргей ПУЛЬША*

**Перад Новым годам Расія зноўку кінула Беларусі выратавальны круг. Уладзімір Пуцін абвясціў, што Расія гатовая даць Беларусі міждзяржаўны крэдыт да двух мільярдаў долараў тэрмінам на 10 гадоў.**




«Урад Расійскай Федэрацыі прыняў рашэнне аказаць садзейнічанне нашым калегам у сувязі з тым, што адбываецца на сусветных рынках, і даць Рэспубліцы Беларусь дадатковыя пазыковыя сродкі ў 2014 годзе ў аб'ёме да 2 мільярдаў долараў», — сказаў Пуцін. Першая частка сродкаў паступіла яшчэ ў снежні, што дазволіла Нацбанку паказаць рост золатавалютных рэзерваў па выніках мінулага месяца. ЗВР у снежні выраслі на 192,2 мільёна долараў — да 6650,9 мільёна на 1 студзеня 2014 года. Нацбанк не пасаромеўся прызнацца, што рост ЗВР сярод іншага абумоўлены «паступленнем першай часткі крэдыту Расійскай Федэрацыі».

Лукашэнка прасіў у Расіі крэдыт у 2 мільярды долараў з пачатку 2013 года. Пуцін усё аднекваўся, і грошы выдаваць не спяшаўся. Спачатку ён патрабаваў за гэта «інтэграцыйны прарыў» у выглядзе стварэння расійска-беларускіх холдынгаў, улетку адбыўся разрыў «Уралкалія» з «Беларуськаліем», а потым і арышт Баўмгертнера. Але да канца года ўсё ўтрэслася, хаця інтэграцыйныя праекты знешне засталіся на той жа стадыі.

Цікавая сітуацыя і з вечнай беларускай жалобнай песняй — балансам паставак нафты з Расіі. Ашуканства з разбаўляльнікамі-растваральнікамі ў 2012 годзе прывяло да таго, што ў 2013 годзе Расія давала Беларусі нафту паквартальна. Арышт Баўмгертнера ледзьве не прывёў да рэзкага скарачэння нафтавых аб'ёмаў. Да таго ж, Беларусь не вельмі сумленна паводзіла сябе з абавязкам вяртаць у Расію частку бензіну ў памеры 3,3 мільёна тон, — увесь час узнікалі нейкія праблемы.

Тым не менш, і з нафтаю ў нас пакуль (тфу-тфу, каб не сурочыць) усё нармальна. Нягледзячы на тое, што баланс яшчэ не падпісаны, ужо ўзгоднена: Расія падпіша яго не на тры месяцы, а на паўгода. На першае паўгоддзе запланаваная пастаўка 11,5 мільёна тон, што з'яўляецца выкананнем «беларускага разліку» — 23 мільёны тон нафты на год. Канешне, нашы патрабавалі 24 мільёны тон, але яны заўсёды патрабуюць «з запасам», згодна з правілам: патрабуй немагчымае, і атрымаеш тое, чаго хочаш.

Беларусы адначасова замялі і пытанне з квотамі па зваротных пастаўках нафтапрадуктаў у Расію. Зараз тая квота ў 3,3 мільёна тон бензіну не дакладна прапісаная ў пагадненні, адзначаюць эксперты. А гэта значыць, што беларусы могуць распараджацца бензінам больш вольна і пастаўляць у Расію столькі, колькі палічаць патрэбным, а не столькі, колькі іх абавяжуць.

Чаму ж Пуцін раптам стаў такі лагодненькі? Бо крэдыт у 2 мільярды долараў без асаблівых абавязкаў выглядае тым больш недарэчным, што сам расійскі прэзідэнт азнаёміўся з «засценкамі», па ягоным выразе, новай рэзідэнцыі Лукашэнкі, якая каштуе больш, чым першы транш крэдыту. Мог бы і сказаць: «Калі будуеце такія аб'екты, дык грошы ў вас саміх ёсць». Але не сказаў.

Падаецца, у атрыманні маскоўскіх грошай нам вельмі дапамагла Украіна. Паглядзеўшы на Еўрамайдан, расійскія кіраўнікі скемілі, што Беларусь — адзіны і бліжэйшы прыклад стабільнасці Мытнага саюза. Абапіраючыся на прыклад расійска-беларускіх адносінаў, варта паказаць Украіне, што ёй лепш быць бліжэй да Расіі, чым падпісваць пагадненне пра асацыяцыю з ЕС.

> Крэдыт у 2 мільярды долараў выглядае тым больш недарэчным, што новая рэзідэнцыя Лукашэнкі каштуе больш, чым першы транш, выдзелены Расіяй

Адпаведна, не можа быць і ніякага «прымусу да ўваходжання ў Мытны саюз» Украіны, калі ў адной з краінаў гэтага саюзу вымалёўваюцца крызісныя тэндэнцыі і дэвальвацыя на парозе. Таму лепш задаволіць настойлівыя просьбы беларускага кіраўніка і дапамагчы Беларусі, чым дэманстратыўна пракінуць саюзніка па мытнай арганізацыі на вачах ва Украіны.

Да таго ж, у Пуціна ў завяршаючай стадыі любімая гулька — стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза. Не пазней за 1 мая дамова павінна быць падпісаная, каб яе паспелі ратыфікаваць парламенты краінаў — сябраў ЕАС, і ЕАС пачала працаваць у поўным фармаце з 1 студзеня 2015 года. Пра гэта Пуцін таксама абвясціў на пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета — тады ж, калі заявіў і пра крэдыт.

Расійскаму прэзідэнту трэба, каб ніякіх адхіленняў ад прынятага плану не было. Калі Аляксандр Лукашэнка будзе надаваць больш увагі эканамічнаму становішчу ў краіне ды ездзіць па свеце ў пошуках валюты, то гэтыя дакументы могуць завіснуць на нявызначаны тэрмін. Таму Пуцін здымае з кіраўніка Беларусі цяжар клопату пра валюту, пераследуючы адразу тры мэты: паказаць, як у Мытным саюзе добра, падцягнуць Украіну да МС і прымусіць Лукашэнку заняцца першачарговымі для Пуціна планамі.

Каб планы Пуціна спраўдзіліся, патрэбныя грошы, грошы і яшчэ раз грошы. І нездарма Масква выдзеліла Украіне значна больш грошай, чым Беларусі — крэдыт у 15 мільярдаў долараў з запаснікаў, як паведаміў Пуцін, расійскага ўрада.

Так што адзінае пытанне зараз — у Расіі. Ці выцягне Расія дваіх — Беларусь і Украіну? Тым больш, што Расія зараз сама на мяжы рэцэсіі, яе ўласныя выдаткі несувымерна высокія (Алімпіяда ў Сочы, напрыклад, самая дарагая ў гісторыі Алімпійскіх гульняў), а кошт на нафту, па прагнозах сусветных экспертаў, можа скаціцца да 100 альбо нават 80 долараў за барэль. Павелічэння нафтавага кошту эксперты не прагназуюць.

Дарэчы, расійскія эканамісты разлічвалі бюджэт краіны з разліку 80 долараў за барэль, але ці разлічылі яны шчодрыя крэдыты Пуціна? Калі ляснецца эканоміка ў Расіі, усяму інтэграцыйнаму будзе вельмі кепска.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# АКТЫВІСТА АДЛІЧАЮЦЬ

**Сябра Маладога Фронту Уладзіслаў Макавецкі навучаецца ў Віцебскім тэхналагічным каледжы па спецыяльнасці «дэкаратыўна-прыкладное мастацтва».**

Палітычнай дзейнасцю Улад займаецца даўно, і кіраўніцтва каледжа папярэджвала яго пра недапушчальнасць «грамадскай дзейнасці».

У мінулым годзе падчас традыцыйнай акцыі памяці герояў Слуцкага Збройнага Чыну ён прыняў прысягу Маладога Фронту. Праз некаторы час пасля гэтага ў каледж прыйшлі невядомыя супрацоўнікі праваахоўных органаў у цывільным. Яны прынеслі фатаздымкі Улада з жалобнага мітынгу і прыняцця прысягі. Пасля іх размовы хлопца выклікалі да кіраўніцтва каледжа і сказалі, што давучыцца ў яго не атрымаецца (яму засталося вучыцца меней за паўгады) і ўвогуле прапанавалі самому забраць дакументы.

Праблем з вучобай Улад ніколі не меў — таму вырашыў паспрабаваць здаць іспыты. Але на іспытах, нягледзячы на ўпэўнены адказ, яго накіравалі на пераздачу па двух прадметах.

Кіраўніцтва не хавае матываў гэтага рашэння. У прыватнай размове куратар групы паведаміла прэс-службе Маладога Фронту, што, на жаль, дапамагчы нічым не можа, хаця і ведае пра сапраўдныя матывы. Загадчыца аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Хадасевіч Таццяна Генадзьеўна на працоўным месцы адсутнічала, таму пачуць яе тлумачэнні наконт гэтай сітуацыі немагчыма. Намесніца дырэктара па ВВП Дзевяцьярава Людміла Мікалаеўна і дырэктарка каледжа Гарбуз Тамара Пракоф'еўна адмаўляюць палітычныя матывы праблем Улада, але падрабязныя тлумачэнні даць адмовіліся.

**mfront.net**

СУД

# УЛАСЕВІЧ СУПРАЦЬ РАЙВЫКАНКАМА

**13 студзеня ў судзе Астравецкага раёна адбудзецца разгляд грамадзянскай справы па скарзе актывіста АГП Мікалая Уласевіча на незаконныя дзеянні Астравецкага райвыканкама, які забараніў пікет «Карупцыянераў да адказнасці».**

Нагадаем, што 7 снежня Мікалай Уласевіч меў намер правесці ў Астраўцы пікет "Карупцыянераў да адказнасці" з мэтай прыцягнуць увагу жыхароў і праваахоўных органаў да службовых злоўжыванняў і карупцыйных праяў сярод высокапастаўленых асобаў раёна.

Адпаведная заява была пададзеная ў Астравецкі райвыканкам. Неўзабаве ён атрымаў адмову за подпісам першага намесніка старшыні Андрэя Янчэўскага.

Па меркаванні чыноўніка, Уласевіч парушыў патрабаванне артыкула 5 «Закона аб масавых мерапрыемствах" у частцы прыняцця мер па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі пры правядзенні масавага мерапрыемства.

З гэтым рашэннем Мікалай Уласевіч не пагадзіўся і падаў скаргу на неправамерныя дзеянні Астравецкага райвыканкама.

**ucpb.org**

ПРАПАНОВА

# ГОД АРШАНСКАЙ БІТВЫ

Марат ГАРАВЫ

**Зрабіць 2014-ы годам бітвы пад Оршай прапанаваў Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 500-годдзя славутай перамогі войскаў ВКЛ над маскоўскімі захопнікамі пад Воршай.**



Як адзначаецца ў звароце аргкамітэту да беларускай грамадскасці, 8 верасня 2014 года спаўняецца 500 гадоў ад часу выбітнай перамогі пад Оршай войскаў нашай дзяржавы над арміяй Вялікага Княства Маскоўскага.

Супраць 80-тысячнага войска захопнікаў, якое шляхам падкупу абаронцаў авалодала Смаленскам, урад ВКЛ здолеў выставіць усяго 30 тысяч вояў. Асноўную ролю ў арганізацыі і правядзенні таленавітай і паспяховай вайсковай аперацыі пад Оршай адыграў найвышэйшы гетман ВКЛ Канстанцін Іванавіч Астрожскі. У выніку перамогі нашых войскаў быў спынены далейшы захоп акупантамі беларускіх земляў і разбураны таемны саюз між Масквой і Свяшчэннай Рымскай імперыяй германскай нацыі, скіраваны супраць ВКЛ—Беларусі ды Польшчы. Поўны захоп ВКЛ не адбыўся, нашая краіна паказала ўсёй Еўропе прыклад мужнасці і вайсковага ўмельства.

У перад'юбілейны год патрыятычная грамадскасць Беларусі згуртавалася ў Нацыянальным аргкамітэце дзеля супольнага святкавання ў 2014 годзе 500-годдзя гэтай слаўнай падзеі нашай гісторыі, і прапануе абвесціць 2014 год у Беларусі годам бітвы пад Оршай.

У план святкавання ўваходзіць правядзенне міжнароднай навуковай канферэнцыі, юбілейнага фэсту на месцы бітвы і адмысловай выставы, конкурсаў, спаборніцтваў, вандровак і экскурсій, а таксама прэзентацыя выданняў, прысвечаных вялікай перамозе пад Оршай.

Аргкамітэт запрашае грамадства да шырокага ўдзелу ў святкаванні юбілею Аршанскай бітвы.

Нагадаем, Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 500-годдзя бітвы пад Оршай быў створаны напрыканцы 2013 года ў Мінску. У склад аргкамітэту ўвайшлі вядомыя дзеячы беларускай культуры.

Старшынёю аргкамітэту абраны доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч, ягонымі намеснікамі — мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава, доктар гістарычных навук, прафесар Алесь Краўцэвіч, палітолаг Алесь Жучкоў, бард і краязнаўца, адзін з заснавальнікаў бардаўскага фэсту «Бітва пад Воршай» Андрэй Мельнікаў.

ІНДЭКС

# САМАЯ ДАБРАЧЫННАЯ НАЦЫЯ

Мікола ДЗЯЦЮК

**Паводле Сусветнага індэксу дабрачыннасці — World Giving Index (WGI), — самай дабрачыннай краінай у 2013 годзе прызнаныя ЗША.**



Індэкс быў складзены Charities Aid Foundation на аснове дадзеных, сабраных інстытутам Гэлапа, уключае 153 краіны свету і паказвае, наколькі актыўна насельніцтва гэтых краін у сферы дабрачыннасці. Рэспандэнтам задаюцца тры пытанні: 1) Ці ахвяравалі вы грошы на штонебудзь? 2) Ці працавалі ў якасці валанцёра? 3) Ці аказвалі дапамогу незнаёмаму вам чалавеку?

Першае выданне было выпушчана ў верасні 2010 года, яно паказала, што максімальную колькасць ахвяраванняў робяць народы Новай Зеландыі, Аўстраліі і Ірландыі.

У 2013 годзе ў першую тройку ўвайшлі ЗША, Канада і М'янма. Беларусь займае 93 месца. Што тычыцца нашых суседзяў, месцы размеркаваліся наступным чынам: Польшча — 84 месца, Латвія — 93, Украіна — 102, Літва — 120, Расія — 123.

ВЫБАРЫ

# ПРАЙМЕРЫЗ: ПЕРШАЯ СПРОБА

Сяргей ПУЛЬША

**Першая спроба вызначыць лідара прыхільнікаў пераменаў праз праймерыз пройдзе ў Бабруйску ў дзень мясцовых выбараў, 23 сакавіка. Пра гэта арганізатары праймерыз паведамілі на пасяджэнні экспертнага клуба.**

Плануецца, што ў працэдуры праймерыз будуць удзельнічаць усе, хто мае прэзідэнцкія амбіцыі, незалежна ад таго, жадаюць яны гэтага ці не, і могуць быць кандыдатамі ў прэзідэнты альбо не могуць, як, напрыклад, Мікалай Статкевіч, які знаходзіцца за кратамі. Арганізатары праймерыз паведамілі, што вызначаюцца тры-пяць лідараў, якія могуць павесці за сабою незадаволеную частку грамадства, якая прагне пераменаў. А пытанне адзінага кандыдата — ужо другаснае.

Чаму Бабруйск? Ён не вялікі, але і не маленькі — у ім каля 150 000 выбаршчыкаў. Ён не блізка, але і не далёка ад Мінска, каб кандыдаты маглі лёгка да яго даехаць і правесці агітацыйную працу. Адначасова гатоўнасць паехаць у рэгіён засведчыць іх сур'ёзныя амбіцыі на лідарства сярод дэмсілаў. І ў горадзе павінны быць зарэгістраваныя офісы палітычных структураў, дзе можна было б паставіць скрыні для галасавання.

У лістах для галасавання будзе радок, дзе народ можа ўпісаць сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта. Не выключана, што дэмакратычна настроеныя грамадзяне могуць быць і сярод прыхільнікаў Аляксандра Лукашэнкі, і што яны могуць упісаць у бюлетэнь і ягонае прозвішча. А чаму не? Чаму б Лукашэнку таксама не паўдзельнічаць у праймерызе?

Прагаласаваць можна будзе некалькімі спосабамі. 23 сакавіка хто захоча, здолее наведаць офісы дэмструктураў і апусціць бюлетэнь у скрынку персанальна. Можна будзе запрасіць да сябе дадому "выязную скрыню". Прагаласаваць можна будзе і па пошце, адправіўшы запоўнены бюлетэнь, які будзе раздавацца падчас абыходу кватэраў. Прадугледжваецца магчымасць галасавання па тэлефоне: падчас абыходу кватэраў валанцёры запісваюць у чалавека нумар тэлефона і нумар пашпарту, потым тэлефануюць яму, звяраюць імя-прозвішча і нумар пашпарту, і атрымліваюць адказ на пытанне, за каго ён галасуе.

Арганізатары кажуць, што будуць радыя любому выніку праймерыз, за выключэннем аднаго — калі людзі самі не праявяць цікавасці да гэтай ідэі. Калі ж у Бабруйску ўсё пройдзе паспяхова, можна будзе распаўсюдзіць гэтую працэдуру і на ўсю краіну.

**Больш падрабязна пра праймерыз чытайце на нашым сайце novychas.info**

ПАДАРУНАК

# НА НОВЫ ГОД — ХЛЕБ

Марат ГАРАВЫ

**13-гадовай Леры з вёскі Залессе Акцябрскага раёна, што на Гомельшчыне, падарылі на Новы год хлеб.**

Як распавяла НЧ бабуля дзяўчынкі Глафіра Спундэр, 27 снежня ў Доме творчасці райцэнтра адбылася дабрачынная ёлка, падчас якой мясцовыя дэпутаты і прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму Акцябрскага райвыканкама ўручылі Леры навагодні падарунак — чорны хлеб «Арыгінальны» і «Царскі» з курагой, арэхамі і семкамі сланечніку, дзве вялікія кардонкі пячэння і мяккую цацку.

І хаця бабуля лічыць, што хлеб — самы высакародны падарунак, мне здаецца, што на Новы год дзеці чакаюць нешта іншае. Ва ўсялякім выпадку, прыпамінаю сваё пасляваеннае дзяцінства, калі пад Новы год атрымліваў чаканы падарунак, ашаломлена разглядаў яго і лічыў, колькі цытрусавых, яблык, арэхаў і розных гатункаў цукерак (асабліва апошніх!) знаходзілася ў папяровым мяшэчку. А калі ж пад ёлкаю знаходзіў банку мёду, цацку ці нейкую абнову, ад радасці доўга не мог супакоіцца.

А сёння, калі нашы дзеці з малых гадоў маюць мабільнікі, кампутары і розныя электронныя гульні, можа, і чорны хлеб узрушвае і выклікае станоўчыя эмоцыі. І хоць, як сведчыць спадарыня Глафіра, для ўнучкі любыя падарункі не прыносяць асаблівай радасці, бо дзяўчынка — круглая сірата (яе бацькі сышлі ў іншы свет), аднак Лера, якая вучыцца ў Акцябрскай гімназіі і марыць стаць доктарам ці праграмістам, цёпла ўспрыняла гэты незвычайны падарунак.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗВЫШГАСЦІННЫЯ

*Сяргей САЛАЎЁЎ*

**Толькі кіраўнік краіны дбае пра гасцей, якія прыедуць на Чэмпіянат свету па хакеі ў 2014-м. Падавалася б, клапаціцца яму няма чаго — у адсутнасці талерантнасці і гасціннасці беларусаў яшчэ ніхто не папракаў. Але, каб на лепшыя нацыянальныя рысы мы ўсё ж не забыліся, была падпісаная і адпаведная паперка.**




Указ пра тое, што 2014-ы год абвяшчаецца Годам гасціннасці, прэзідэнт падпісаў 27 снежня 2013 года. А вы думалі, што будзе год сіняга драўлянага каня…

Чаму гасціннасці? «У мэтах развіцця турызму, стварэння сучаснай турыстычнай інфраструктуры, якая ўлічвае геаграфічнае становішча, прыродныя, гістарычныя і культурныя багацці Беларусі, выхавання ў грамадзян патрыятычнага гонару і павагі да Бацькаўшчыны», — тлумачыцца ў афіцыйным каментары да дакумента.

Уяўляю, які вэрхал гэты ўказ унёс у асяроддзе беларускага чыноўніцтва. Бо зазвычай, калі год аб'яўляецца годам чагосьці, чыноўнікі адразу пачынаюць страчыць планы, каб потым бадзёра рапартаваць пра іх выкананне. 2013-ы быў годам эканоміі і беражлівасці. Тут усё зразумела: зэканомлена столькі і столькі кілават-гадзінаў, умоўнага паліва і гэтак далей. З 2012-м годам кнігі таксама нармальна: столькі газетаў выпісана, столькі кніжак набыта (дай Божа, каб было і прачытана), столькі чалавек запісаліся ў бібліятэку. А ў чым вымяраецца гасціннасць?

Падаецца, дзеля выканання плану ў год гасціннасці чыноўнікі павінны будуць самі сустракаць замежнікаў з хлебам-соллю, самі вадзіць экскурсіі і ледзьве не класці гасцей да сябе ў ложак. А як жа інакш вымяраецца гасціннасць? Так і бачыцца ў справаздачах: «У N-скім гарвыканкаме праз ложкі супрацоўнікаў прайшло — N-цацць тысячаў турыстаў». Гэта ўжо не краіна, а нейкі бардэль атрымліваецца.

Аднак ёсць і тыя, хто дзеля гасціннасці здольны пакінуць у «сінявокай» даражэнькіх госцейкаў назаўжды. Мікалай Ладуцька, мэр Мінска, паставіў задачу: сярэдняя загрузка нумарнога фонду камунальных гасцініц Мінска па выніках 2014 павінна скласці 60–65%. «Галіна гасцінічных паслуг павінна прыносіць сур'ёзныя прыбыткі. Мы павінны іх пастаянна павялічваць, гэта комплексная, агульная задача многіх службаў горада. Неабходна не толькі своечасова запусціць гатэлі, якія будуюцца, але і забяспечыць іх нармальную загрузку. Сярэдняя загрузка камунальных гасцініц па выніках 2014 павінна скласці 60–65 %», — заявіў мэр.

То бок, гасцініцы павінны быць загружаны больш, чым напалову не толькі падчас Чэмпіянату свету па хакеі, але і ў астатні перыяд. А як забяспечыць такую загрузку, калі акрамя расіян, якія едуць да нас пагуляць у казіно, больш няма кліентаў? Гэта што, «усіх запускаць, нікога не выпускаць»? Вось дзе знойдуцца «беларускія Сноўдэны», — той жыў у аэрапорце, а ў нас больш камфортныя ўмовы.

Але больш за ўсіх парадаваў начальнік дзяржустановы «Упраўленне бытавога і гасцінічнага абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама» Андрэй Новікаў. «Улічваючы двухразовы рост аб'ёму прапаноў на рынку гасцінічных паслуг у 2014 годзе і абвяшчэнне гэтага года Годам гасціннасці, неабходна разгледзець фармаванне канцэптуальнага плана развіцця галіны гасцінічных паслуг. Пры гэтым неабходна перагледзець праграму культурных мерапрыемстваў, актывізаваць працу камунальных турыстычных кампаній», — паведаміў ён на тым жа пасяджэнні з Ладуцькам.

Во як! Аказваецца, дагэтуль мы шалёнымі тэмпамі будавалі гасцініцы, не маючы ніякага плана развіцця гасцінічных паслуг. І яшчэ здзіўляліся, што новыя гасцінічныя комплексы раз-пораз улазяць на месцы гістарычнай забудовы, дзеля іх руйнуюцца помнікі архітэктуры, паркі і скверы. А пасля ЧМ па хакеі будзем азірацца па баках: каму столькі гасцініц патрэбна, як іх запоўніць хаця б на 65%? То бок, як у бразільскім серыяле: спачатку ствараем сабе невыносныя праблемы, потым пасыпаем галаву попелам, а потым гераічна іх спрабуем вырашыць.

Хіба не хапае нам іншых праблем? Хапае, і з горкай. Пра гэта кажа ўказ кіраўніка дзяржавы, які быў падпісаны літаральна за гадзіны да новага года, і якім зацвярджаецца прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі Беларусі на 2014 год.

> Колькасць жытла, якое плануецца пабудаваць з дзяржпадтрымкай, не тое што знізілася — абрынулася: ад 6 мільёнаў да 2,5 мільёна квадратных метраў

Мабыць, упершыню ў гісторыі Беларусі прагноз такі песімістычны, але больш рэалістычны. Упершыню запланаваны нізкі рост ВУП — усяго на 3,3%. Рост прадукцыйнасці працы (па ВУП) прагназуецца на ўзроўні 6,9%, экспарту тавараў і паслуг — на 8,6%. Сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі чакаецца станоўчым на ўзроўні 0,1% да ВУП.

Праўда, улады звыкла разлічваюць прыцягнуць 4,5 мільярда долараў простых замежных інвестыцыяў, але гэта ў іх ніколі не атрымлівалася. Хутчэй, гэтая лічба намаляваная для замежных крэдыторскіх фондаў. Затое колькасць жытла, якое плануецца пабудаваць з дзяржпадтрымкай, не тое што знізілася — абрынулася: ад 6 мільёнаў квадратных метраў да 2,5 мільёна квадратных метраў.

Не запланаванае істотнае падвышэнне даходаў насельніцтва — толькі на 3%. У прынцыпе, гэта нармальна суадносіцца з ВУП: калі той падымецца на 3%, то і даходы павінны быць не вышэй.

Урад і Нацбанк вераць, што ў 2014 годзе змогуць знізіць стаўку рэфінансавання да 14–16% гадавых, стрымаць рост патрабаванняў банкаў да эканомікі ўзроўнем не вышэй за 16–19% і нават нарасціць золатавалютныя рэзервы на 0,2–0,5 мільярда долараў.

Але гэта толькі прагнозы. На 2013 год былі, канешне, больш аптымістычныя прагнозы, але з чым мы да яго прыйшлі? Рост эканомікі па выніках 2013 года будзе меншым за 1%, што ўжо мяжуе з рэцэсіяй, адмоўнае сальда знешняга гандлю пераваліць за 1 мільярд долараў, а сальда гандлю таварамі падбярэцца да адзнакі ў мінус 6 мільярдаў долараў. 2013-ы скончыўся са стаўкай рэфінансавання 23,5% гадавых, а рост патрабаванняў банкаў да эканомікі пераваліў за адзнаку ў 30%.

І што ж мы робім? А нічога не застаецца, як перапісваць прагноз. Ізноў падкінулі працу Аляксандру Рыгоравічу, які сваім указам зацвердзіў дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту на 2013 года ў памеры 3,5 трыльёна рублёў. Хаця раней урад планаваў 2013-ы з бездэфіцытным выкананнем бюджэту.

Што спраўдзіцца з прагнозных паказчыкаў у 2014-м? Пажывем — пабачым.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ДАР'Я ДОМРАЧАВА

Прыма беларускага біятлону не перастае нас радаваць. У нямецкім Оберхофе яна заваявала залаты медаль у гонцы пераследу, залаты ж — у спрынце, і бронзавы — у мас-старце. Але пасля перамогі ў гонцы пераследу яна шакавала калег, публіку і арганізатараў тым, што… спазнілася на цырымонію ўласнага ўзнагароджання!

Домрачаву чакалі, улічваючы важнасць моманту, параўнальна доўга — некалькі хвілін. Прызёры выстраіліся каля пастамента, а Дар'і няма. Хвіліны ідуць, адсутнасць беларускі прыкметная ўжо ўсім, Дар'я бяжыць праз натоўп. Але кароткая дарога апынулася доўгай — усе шляхі да пастамента былі зачыненыя, і каб атрымаць узнагароду, Дар'і з лыжамі і вінтоўкай давялося перелезці праз плот. Прадстаўнік Міжнароднага саюза біятланістаў не пускае яе да пастамента — на Дар'і няма манішкі са стартавым нумарам. Хтосьці перадаў Домрачавай накідку, але не з нумарам 1, у якой яна выступала, а з нумарам 62. Дар'я хутка нацягвае манішку і атрымлівае медаль.

І гэта казус: на першай прыступцы п'едэсталу гонкі пераследу біятланістка пад нумарам 62. У рэальнасці такога быць не можа, таму што ў пераследзе заяўляюцца толькі 60 спартоўцаў.

Але, нягледзячы на ўсё, у Оберхофе Домрачава дала зразумець, што падыходзіць да Алімпіяды ў выдатнай форме, а ў агульным заліку Кубка свету беларуска паднялася на чацвёртае месца.

### МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ



Удзень Раства Мікалай Статкевіч здолеў патэлефанаваць жонцы Марыне Адамовіч і праз яе перадаць віншаванні са святам для ўсіх беларусаў. «Віншую ўсіх з цудоўным святам Раства Хрыстова! Няхай яно прыносіць радасць і ўмацоўвае вас у веры, бо ўсё будзе добра. Зычу сапраўдных калядных цудаў!», — сказаў для ўсіх Статкевіч.

«Гэта — сапраўдны падарунак, такі маленькі цуд на Каляды, — тэлефанаванне з турмы. Мікалай распавёў, як сустракаў Новы год. Яны з суседам нават зладзілі святочную вячэру, якая складалася з «салаты», як сказаў Мікалай, з «адборных кавалкаў» той самай варанай з вантробаміількі, якую ў турме выдаюць на вячэру, і «торціка» з печыва. Да таго ж, ім выдалі галінку ялінкі. Так што да свята яны падрыхтаваліся. Ён прасіў перадаць віншаванні са светлым святам Раства Хрыстова сябрам і аднадумцам, тым, хто яго падтрымлівае, усім добрым людзям, а таксама падзякаваць тым, хто павіншаваў яго і іншых палітвязняў за падтрымку, якая вельмі саграваe», — сказала Адамовіч.

### МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ



Мітрапаліт Філарэт, ужо ганаровы патрыяршы экзарх усяе Беларусі, сышоў у адстаўку па стане здароўя. Навіна для Беларусі здзіўляльная, бо ў нас вышэйшыя асобы так проста ў адстаўку не сыходзяць.

Сыход на спачынак прайшоў цалкам у адпаведнасці са Статутам РПЦ. Калі быць дакладным, то статут прадугледжвае выхад на спачынак у 75 гадоў, а Філарэту ўжо 79. Чатыры гады гадоў таму ён быў адным з кандыдатаў на вышэйшую пасаду ў РПЦ і зняў сваю кандыдатуру «з-за стану здароўя». Тады ж Філарэт напісаў заяву аб «пачысленні на спачынак» у адпаведнасці са Статутам РПЦ. Так што, здаецца, у тым, што Сінод РПЦ задаволіў яго просьбу чатырохгадовай даўніны, няма ніякай раптоўнасці або сенсацыйнасці.

Яго сыход прыводзіць на памяць нядаўні сыход Папы Бенядзікта XVI, які цвяроза ацаніў свой фізічны стан і сам сышоў з вышэйшай пасады ў каталіцкай царкве. Вядома, становішча Філарэта іншае, але цвярозае разуменне таго, што хвароба і сталы ўзрост перашкаджаюць ажыццяўленню адміністрацыйных функцый, у іх агульнае. Мітрапаліт Філарэт даўно хварэе, і гэта цвярозае разуменне межаў уласнага фізічнага стану ёсць важная рыса інтэлектуальнага і маральнага склада іерарха.

З гэтага часу мітрапаліт Філарэт з'яўляецца ганаровым патрыяршым экзархам усяе Беларусі. Ён захавае права ўдзелу ў працы Святога Сінода і ганаровае пратакольнае месца на набажэнствах і ў афіцыйных цырымоніях. Непасрэдным жа кіраўніком Беларускай праваслаўнай царквы стаў цяперашні мітрапаліт Разанскі і Міхайлаўскі Павел.

Як усё ж пачэсна — своечасова сысці!

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ




# ШОСТАЯ КАЛОНА



Сяргей НІКАЛЮК

**Яшчэ Ленін усведамляў небяспеку, што сыходзіла ад адміністратыўна-бюракратычных метадаў кіравання: *«Все у нас потонуло в паршивом бюрократическом болоте ведомств... Ведомства — говно; декреты — говно»* (21 лютага 1922 года).**

Мы неяк прывычаіліся, што ў Беларусі існуе пятая калона. Адзіны палітык (АП) нам увесь час пра яе нагадвае. Больш за ўсё яго раздражняе, калі пятая калона адмаўляецца гуляць па яго правілах (а іншых правілаў няма) у выбарчых кампаніях: *«Поэтому я часто говорю: это не оппозиция. Оппозиция будет бороться, бороться за власть, за интересы народа или еще за что-то. А это пятая колонна, они действуют в интересах определенных сил, которые порой находятся за пределами нашей страны».*

Асноўная задача пятай калоны — дэстабілізацыя становішча ў краіне. Асноўны інструмент — вяканне. У выключных выпадках пятая калона здольная на пэўныя ўчынкі. Набярыце ў інтэрнэце тры словы: «Беларусь», «пацук», «вядро». За 0,3 секунды інфармацыйная памыйніца выме са сваіх нетраў гісторыю, якую ў 2006 годзе распавёў свету беларускі чыноўнік з вялікімі зоркамі на пагонах. Гэта гісторыя пра юнака, які планаваў «забіць мышы ці пацука і кінуць яе труп у вядро з вадой. А потым гэту ваду з вядра ўліць у сістэму водазабеспячэння».

Але патрапіць у сістэму водазабеспячэння атручанай вадзе не было наканавана. Спецслужбы спрацавалі аператыўна. Адзіная беларуская нацыя можа спаць спакойна. Колькасць айчыннай пятай калоны не дацягвае і да 1000 чалавек і, паводле інфармацыі АП: *«мы их всех поименно знаем, и они только в Минске сидят».*

## Не валодае, але распараджаецца

Белстат яшчэ не падвёў канчатковыя вынікі 2013 года, але за студзень-лістапад з дзевяці найбольш важных параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця выкананыя толькі два. Каб знайсці адказ на класічнае пытанне: «Хто вінаваты?» звернемся ў чарговы раз да АП: *«Созидательный потенциал нашего народа огромен, а главные препятствия на пути реализации его творческих возможностей — это бюрократ и бюрократизм. В свое время, сковав намертво творческие силы, инициативу людей, бюрократы стали одной из главных причин гибели советского общества».*

Паводле артыкула 1 сталінскай канстытуцыі 1936 года: «Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік ёсць сацыялістычная дзяржава рабочых і сялян». У артыкуле 1 Брэжнеўскай канстытуцыі 1977 года гаворка ідзе пра агульнанародную дзяржаву, якая выказвае «волю і інтарэсы рабочых, сялян і інтэлігенцыі, працоўных усіх нацый і народнасцяў краіны».

З прыведзеных фармулёвак робіцца відавочна, што іх аўтары (прынамсі, на ўзроўні дэкларацый) не адрознівалі дзяржаву і грамадства. Што ж тады азначае слоган: «Дзяржава для народа», які ўпрыгожвае галоўную старонку абноўленага сайта АП?

Я думаю, што мы маем справу з несвядомым вяртаннем да Маркса. Класік разглядаў бюракратыю ў якасці суб'екта, які лічыць сябе «канчатковай мэтай дзяржавы» і імкнецца ператвараць дзяржаўныя задачы ў канцылярскія, а канцылярскія — у дзяржаўныя.

У сваю чаргу, дзяржава паводле Маркса — гэта інструмент палітычнага панавання класа, які валодае сродкамі вытворчасці. Сродкамі вытворчасці ў Беларусі бюракратыя не валодае, але яна імі распараджаецца. Прычым памыляецца той, хто лічыць, што беларуская бюракратыя «абмежаваная ў правах», г. зн. пазбаўленая магчымасці распараджацца недзяржаўнымі сродкамі вытворчасці (прыватнай уласнасцю). У Беларусі *«зона ответственности каждому определена гласно или негласно».* Асобна ж для ўладальнікаў банкаў у лістападзе 2013 года АП растлумачыў: *«Думаю, банкиры меня услышали. И мне неважно, какие они и с каким капиталом: западным, российским или белорусским. Вы пришли сюда работать, вы обещали эту стабильность — работайте вместе с правительством».*

## Хто прымае рашэнні?

Гісторыя дасавецкай дзяржавы — гэта гісторыя прыхаванай барацьбы кіроўнай эліты з уласнай бюракратыяй. Гісторыя савецкай дзяржавы — гэта гісторыя трансфармацыі вышэйшых пластоў бюракратыі ў кіроўную эліту (наменклатуру).

Здавалася б, манапалізацыя права на прыняцце рашэнняў павінна была адмежаваць наменклатуру ад любых знешніх замахаў. Аднак ужо ў першы дзень свайго тварэння наменклатура сутыкнулася з праблемай, якую яна не здольная вырашыць. Уся справа ў тым, што ў сучасным дынамічным свеце выжывае толькі той, хто здольны развівацца.

Наменклатура ў гэтым сэнсе не з'яўляецца выключэннем. Манапалізаваўшы правы на прыняцце рашэнняў, яна прыняла на сябе адказнасць за развіццё. Але Бог стварыў бюракратыю, каб панаваць, а не кіраваць. «Бюракратыя, — сцвярджаў нямецкі палітолаг Ральф Дарэндорф, — безгаловая па вызначэнні. Бюракраты павінны лаяльна і кампетэнтна выконваць рашэнні, прынятыя іншымі».

Бюракратычная логіка — гэта логіка справаздачнасці: за першы квартал арганізавана вось столькі круглых сталоў, з вось такой колькасцю ўдзельнікаў, абмеркаваныя наступныя пытанні... і г.д. А там, дзе пануе логіка справаздачнасці, галоўным сэнсам любой дзейнасці становяцца прыпіскі.

Барацьба з прыпіскамі — гэта сізіфава праца, на якую асуджаны першыя асобы бюракратычных іерархій. Не абмінула гэта і АП. Абмяжуюся адным прыкладам: *«Все это вранье по разгрузке складов, как это выглядит сегодня у нас — вывезли в Литву, Россию, еще куда-то, денег не получили, а сложили там у дилеров на складах тракторы, автомобили... Скажу публично, это обернется кому-то камерой».*

«Бюракраты, — і тут я вымушаны зноў працытаваць Дарэндорфа, — павінны лаяльна і кампетэнтна выконваць рашэнні, прынятыя іншымі». Але хто гэтыя таямнічыя «іншыя»? У якіх закутках беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі яны хаваюцца?

Здавалася б, каб знайсці «іншых», талентаў Шэрлака Холмса мець не трэба. Для кожнага канкрэтнага бюракрата «іншым» з'яўляецца яго непасрэдны начальнік. Ён і прымае рашэнні. Праблема, аднак, палягае ў тым, што сваімі рашэннямі начальнік абавязвае падначаленых... прымаць рашэнні. Але ў падначаленых, як правіла, ёсць свае падначаленыя.

## Добрае пытанне

Для замацавання сказанага вышэй звярнуся па дапамогу да таварыша Сталіна: «Неабходна падбіраць працаўнікоў так, каб на пастах стаялі людзі, што ўмеюць ажыццяўляць дырэктывы, могуць зразумець дырэктывы, могуць прыняць гэтыя дырэктывы як свае родныя і здольныя праводзіць іх у жыццё. У адваротным выпадку палітыка губляе сэнс, ператвараецца ў маханне рукамі».

Залатыя словы, і сказаныя яны на адрас кадраў, якія «вырашаюць усё». Дакладней, павінны вырашаць усё. Павінны, але не вырашаюць, таму што такіх бюракратаў-шматстаночнікаў у прыродзе ніколі не існавала.

А як жа першы спадарожнік? Добрае пытанне. Першы спадарожнік — гэта выключэнне, што стала магчымым дзякуючы накладанню шэрагу нестандартных для бюракратычных сістэм акалічнасцяў.

Запазычанне напрацовак Германіі — гэта па-першае. Хто сумняваецца, хай набярэ ў Google «Капусцін Яр». І я абмяжуюся цытатай з Вікіпедыі: «18 кастрычніка 1947 года ў 10:47 па маскоўскім часе здзейснены першы старт балістычнай ракеты ў СССР. У перыяд з 18 кастрычніка па 13 лістапада 1947 года былі запушчаны 11 ракет Фау–2» (Фау–2 — першая ў свеце балістычная ракета, распрацаваная нямецкім канструктарам Вернерам фон Браўнам і прынятая на ўзбраенне Вермахта ў канцы Другой сусветнай вайны).

Па-другое, прадстаўленне поўнай свабоды прадстаўнікам тэхнічнай інтэлігенцыі, што адказваюць за ядзерна-ракетны шчыт краіны. Як тут ні прыгадаць рэпліку фізіка Пятра Капіцы на адрас Берыі: «Я не чытаў вашых прац, а вы — маіх, але па розных прычынах». Чым адказаў Берыя? Нічым. Ён абцёрся.

Па-трэцяе, свядомае фармаванне канкурэнтнага асяроддзя ў сферы стварэння ўзбраенняў: у ракетабудаванні, напрыклад, канкуравалі канструктарскія бюро Каралёва і Чаламея.

Па-чацвёртае, прадстаўленне тэхнічным кіраўнікам праектаў практычна нічым не абмежаваных матэрыяльных і ўладных рэсурсаў. Акадэмік Курчатаў зваў міністраў *«рукребятами»* (*«руководящими ребятами»*). Ён даваў ім даручэнні наўпрост, без узгаднення з Палітбюро.

## Пуга, чаравікі і канкурэнцыя

Савецкі варыянт мадэрнізацыі, якая даганяе, дзе ролю суб'екта развіцця наменклатура ўсклала сама на сябе, свет назіраў на працягу 73 гадоў. «Труба» адклала надыход «найвялікшай катастрофы XX стагоддзя» гадоў на 10–15, але ў 1985 годзе кошт на нафту зменшыўся ў 6,2 разу, і здарылася тое, што і павінна было здарыцца.

Наменклатура амаладзіла свае шэрагі, зрабіла пэўныя саступкі рынку ды пайшла на другі круг. Вось ужо дваццаць гадоў яна неяк спадобілася не выпадаць з яго. І зноў не без дапамогі «трубы». Але рэсурсаў катастрафічна не хапае. Адсюль беспаспяховыя спробы стварыць крыніцы эканамічнага росту, не звязаныя са здабычай і перапрацоўкай сыравіны.

Але гэта задача іншага ўзроўню складанасці. Здабываць сыравіну ўмеюць і сяржанты ў Афрыцы. «Любы дурань, — тут я цытую эканаміста Людвіга фон Мізеса, — можа ўзяць пугу і прымусіць іншых людзей падпарадкавацца. Але толькі мала хто можа вырабляць чаравікі танней і лепш за канкурэнтаў». Няўмелы спецыяліст заўсёды будзе імкнуцца да бюракратычнага панавання. Ён выдатна ведае, што не можа дамагчыся поспеху ў рамках канкурэнтнай сістэмы. Усебаковая бюракратызацыя — гэта яго выратаванне. Абапіраючыся на ўладныя паўнамоцтвы сваёй установы, ён будзе дамагацца выканання сваіх рашэнняў пры дапамозе паліцыі».

Спробы сіламі бюракратыі мадэрнізаваць прадпрыемствы дрэваапрацоўкі з мэтай вытворчасці фанеры «лепш за канкурэнтаў» — аналаг спроб Мюнхгаўзена выцягнуць сябе за валасы з балота.

Адзіны крытэр поспеху для бюракрата — адсутнасць незадаволенасці з боку начальніка. Асноўная ж асаблівасць цяперашняй сітуацыі палягае ў тым, што дамагчыся станоўчых ацэнак сваёй працы з боку галоўнага начальніка наменклатура не здольная ў прынцыпе.

Мадэрнізацыя патрабуе творчасці і асабістай ініцыятывы — г. зн. абавязковых для прадпрымальнікаў якасцяў. А высілкі па выбіванні творчасці з наменклатуры фармуюць у яе шэрагах шостую калону. Успомнім Хрушчова з яго ініцыятывамі...

**Наменклатура амаладзіла свае шэрагі, зрабіла шэраг саступак рынку ды пайшла на другі круг. Вось ужо дваццаць гадоў яна неяк спадобілася не выпадаць з яго. І зноў не без дапамогі «трубы»**

ДЭМАГРАФІЯ

# БЕЛАРУСАЎ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МЕНШ

Канстанцін СКУРАТОВІЧ



**За апошніх дваццаць гадоў колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася на 1,2–1,3 мільёна чалавек. Памёр кожны дзясяты беларус.**

Прырасло толькі насельніцтва Мінска — на 244 тысячы чалавек, Гродна — на 56 тысяч, Брэста — на 33 тысячы жыхароў. Іншыя буйныя і малыя гарады, гарадскія і рабочыя пасёлкі, аграгарадкі і вёскі ці стагніравалі, ці скідвалі колькасць насельнікаў.

Можна сказаць, што законы, у адпаведнасці з якімі рухаецца насельніцтва Беларусі, вызначаюць высокую адмоўную дынаміку і не дапамагаюць захаванню яе патэнцыялу.

Вядома, што ў 1994 годзе колькасць насельніцтва Беларусі дасягнула гістарычнага максімуму і склала 10 мільёнаў 367 тысяч чалавек. Пасля ў краіне пачалася дэпапуляцыя — колькасць насельніцтва ў 1995 годзе зменшылася да 10 мільёнаў 210 тысяч чалавек.

Страты склалі 157 тысяч. Вельмі вялікая лічба. Яна ўзнікла ў выніку змяншэння нараджальнасці і павелічэння смяротнасці, але ў асноўным з-за ад'езду ў свае родныя мясціны вайскоўцаў ды іншых спецыялістаў пасля распаду СССР. Адначасова на радзіму з іншых савецкіх рэспублік пачалі вяртацца беларусы.

## Адток — прыток

Лічылася, што ў хуткім часе сітуацыя ўраўнаважыцца. Але так не адбылося. Адток насельніцтва ў разы перавышаў прыток. Гэта вельмі непакоіла адміністрацыю Лукашэнкі, бо дэпапуляцыя супала з пачаткам яго прэзідэнцтва. Крытыкі вінавацілі Лукашэнку ў тым, што пры ім распачаўся натуральны генацыд беларусаў.

Не разумеючы нюансаў праблемы, кіраўнік Беларусі ўсур'ёз пачаў абараняцца. Усё пайшло ў справу — ад публічнай агітацыі за падвышэнне нараджальнасці да матэрыяльнага заахвочвання. За гэтыя гады колькасць дзяцей і ўнукаў Лукашэнкі павялічылася, але, у агульным і цэлым па краіне, колькасць насельніцтва скарацілася.

У 2000-я гады натуральныя страты насельніцтва складалі па 30–50 тысяч чалавек штогод. І толькі часткова яны кампенсаваліся за кошт імігрантаў. Да таго ж, шмат хто з іх прыязджаў у Беларусь не столькі жыць, колькі дажываць. Прыкладам, расійскія пенсіянеры куплялі таннае жыллё ў беларускай правінцыі.

Вось так і атрымалася, што на 1 снежня 2013 года Беларусь мае 9,4678 мільёна насельнікаў, на 900 тысяч чалавек меней, чым было на канец 1994 года.

Слоў з гэтай нагоды сказана шмат, абяцанняў зроблена не меней, але відавочна, што актыўная дэмаграфічная палітыка Лукашэнкі праваліліся. Падаецца, што ўвогуле, калі б ніякай палітыкі не праводзілася, плён быў бы такім жа. Бо дэмаграфія паляпшаецца сама па сабе тады, калі вялікая частка жанчын пад уздзеяннем абставін дылему «нараджаць ці ўстрымацца» вырашае на карысць першага.

Прыкладам, пасля вайны былі забароненыя аборты. Але ж і пасля 1955 года, калі аборты былі дазволеныя, колькасць насельніцтва ў Беларусі інтэнсіўна павялічвалася. Паводле перапісу 1959 года, у БССР было 8,056 мільёна жыхароў, па дадзеных чарговага перапісу ў студзені 1970 года — 9,002 мільёна чалавек. І гэта пры тым, што «партыя і ўрад» ніякай адмысловай дэмаграфічнай палітыкі не праводзілі. Хоць людзі жылі бедна і недэмакратычна, але за 10 гадоў колькасць насельніцтва ўзрасла на 1 мільён чалавек.

## Насуперак дзяржаўнаму клопату

Можна сказаць, што беларусы «пладзіліся і памнажаліся» не дзякуючы дзяржаўнаму клопату, а насуперак яму. Так, у 1940 годзе натуральны прырост склаў 13,7 чалавека на 1000 насельніцтва, у 1950 годзе — 17,5 чалавека. Гэта было больш, чым у іншых савецкіх рэспубліках, за выключэннем сярэднеазіяцкіх, Азербайджанскай, Армянскай і Малдаўскай рэспублік.

Перажыўшы такую вайну, беларусы хацелі жыць і радавацца. Адсюль — высокая нараджальнасць пры скарачэнні смяротнасці. Натуральны прырост працягваўся да канца 1960-х і на пачатку 1970-х гадоў.

Зараз іншае. Паводле дадзеных Белстата, натуральныя страты ў студзені-лістападзе 2013 года склалі 6 553 чалавекі, іміграцыйны прырост — 10 543 чалавекі — і кампенсаваў натуральныя страты на 4 тысячы чалавек. Можна пакорпацца ў даведніках наконт якасці чалавечага капіталу і яго выкарыстання ў Беларусі, але адразу адзначу, што большую частку гэтых імігрантаў складаюць студэнты, што прыехалі вучыцца ў нашых універсітэтах.

Акрамя таго, значную частку імігрантаў складаюць нізкакваліфікаваныя працоўныя, што прыехалі зарабіць капейчыну на беларускіх будоўлях ці калгасных (зараз усе яны — СВК) палях. Затое з'ехалі з Беларусі пераважна адукаваныя, высокакваліфікаваныя і, што вельмі важна, ініцыятыўныя працаўнікі. І калі яны вернуцца, ды ці вернуцца наогул, — вялікае пытанне.

Скарачэнне насельніцтва ў вабласцях




Колькасць насельніцтва за 20 гадоў у Мінску, Мінскай вобласці, абласных гарадах і гарадах рэспубліканскага падпарадкавання (Баранавічы, Пінск, Наваполацк, Жодзіна, Бабруйск), а таксама ў такіх буйных райцэнтрах, як Ліда, Салігорск, Барысаў ды некалькі іншых, трохі вырасла, але вельмі нераўнамерна. Прыкладам, насельніцтва Пінска павялічылася на 7 тысяч, Баранавічаў на 1 тысячу. А вось ў Бабруйску зменшылася на 10 тысяч.

## Стагнацыя

Можна сказаць, што для дэмаграфіі абласных гарадоў відавочная стагнацыя. Нават з улікам імігрантаў, замежных і тутэйшых, за 11 месяцаў 2013 года колькасць насельніцтва ў Брэсцкай вобласці скарацілася на 1,6 тысячы чалавек, у Віцебскай — на 5,7 тысячы, у Гомельскай — на 2,2 тысячы, у Гродзенскай — на 3,4 тысячы, у Магілёўскай — на 3,3 тысячы чалавек.

Дынамічна расце толькі Мінск, насельніцтва якога ў 1970–1980-я гады амаль падвоілася — з 917 тысяч да 1,7 мільёна чалавек. Мінск расце на фоне стагнацыі іншых гарадоў і дэпапуляцыі сельскай мясцовасці.

З улікам гэтага трэба сказаць, што агульная колькасць гараджан за 20 гадоў павысілася на 340 тысяч, а колькасць сялян паменшылася на 1,2–1,3 мільёна чалавек.

## Адраджэнне ці заняпад

Калі Пётр Пракаповіч мроіць пра 2,5 мільёна кароў, якія залілі б беларускія рэкі тлустым малаком, хай бы падумаў, дзе ён збіраецца шукаць даярак нават для тых кароў, якія ўжо ёсць. Згодна са статыстыкай, занятасць у сельскай гаспадарцы складае блізу 400 тысяч чалавек. Яны вымушаны даглядаць 4,2 мільёна скаціны, у ліку якой 1,4 мільёна кароў і 2,9 мільёна свіней. А людзей няма, і дзе іх браць — пытанне.

Перспектыва гранічна песімістычная. У Брэсцкай вобласці з 16 раёнаў колькасць насельніцтва крыху вырасла толькі ў трох раёнах. У Віцебскай — з 21 раёна — толькі ў адным Пастаўскім. У Гомельскай вобласці дадатную дэмаграфію паказалі толькі Жлобін і Мазыр, дзякуючы буйным прадпрыемствам — металургічнаму ў Жлобіне і нафтаперапрацоўчаму ў Мазыры. Натуральныя страты ў астатніх раёнах перавысілі 2 тысячы чалавек.

У Магілёўскай вобласці ні ў адным з раёнаў няма дадатнай дэмаграфіі, натуральныя страты перавысілі 2,5 тысячы чалавек. У сталічнай вобласці дадатная дынаміка адзначана ў 4 раёнах з 22, страты — 2,3 тысячы чалавек. У Гродзенскай вобласці страты склалі 3,1 тысячы чалавек у 16 сельскіх раёнах. Выключэнне — Лідскі раён, дзе горад мае без малога 100 тысяч насельнікаў, да якога адміністратыўна належаць 33 тысячы сельскіх насельнікаў. Прыблізна такая ж сітуацыя і з Барысаўскім раёнам: 146 тысяч насельнікаў у горадзе і 38 тысяч вяскоўцаў.

Вельмі зручна параўноўваць чыста сельскія раёны. Клецкі і Капыльскі, якія маюць амаль аднолькавую колькасць насельніцтва (гарады па 10 тысяч), раёны па 19 тысяч, колькасць народжаных блізу 300, памерлых — каля 550. Такім чынам, смяротнасць пераганяе нараджальнасць у 1,8 разу. У Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці — у 2,6 разу, у Зэльвенскім — у 2,3 разу.

Першымі паміраюць вёскі. Быццам у адказ на праграму адраджэння сяла, якую начальства выканала і пра паспяховасць якой адрапартавала.



▸ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# наступ на культуру: КІНО НЕ ДЛЯ ЎСІХ

Сяргей ПУЛЬША

**Напрыканцы мінулага года суд Слуцкага раёна прызнаў мясцовую актывістку Зінаіду Цімошак вінаватай у «парушэнні парадку арганізацыі правядзення сходаў» і пакараў яе на 20 базавых велічынь. Віна Цімошак палягала ў тым, што яна паспрабавала паказаць людзям фільм пра Слуцкае паўстанне «40 дзён сялянскай рэспублікі» ў доме культуры вёскі Казловічы. На імпрэзу была запрошаная адна з ягоных аўтарак — гісторык Ніна Стужынская.**

## Што гэта было?

Паглядзець кіно прыйшлі каля 20 чалавек, пераважна сталага веку. Загадчык дому культуры вёскі Казловічы Аляксандр Туміловіч пазней у судзе паведаміў, што ў ягонай установе ёсць такая форма працы — прагляд фільмаў і сустрэчы з аўтарамі, з цікавымі людзьмі. Таму ён пагадзіўся прадставіць памяшканне, тым больш, што фільм быў паказаны па дзяржаўным тэлеканале (АНТ). Да пачатку імпрэзы ён паразмаўляў і з Цімошак, і са Стужынскай, пераканаўся ў іх адэкватнасці і дазволіў мерапрыемства. Але праз некалькі хвілінаў пасля яго пачатку з'явілася міліцыя.



Зінаіда Цімошак

Міліцыянты сарвалі кінапрагляд: затрымалі і правялі допыты ўдзельнікаў імпрэзы, а на арганізатарку Зінаіду Цімошак склалі адміністрацыйны пратакол. На знак пратэсту загадчык Дому культуры вёскі Казловічы Аляксандр Туміловіч пакінуў сваю пасаду.

Усё гэта было б можна спісаць на дубаломства мясцовай міліцыі, каб іхнія дзеянні не падтрымаў суд. І каб гэтыя дзеянні не прывялі да страшэнных наступстваў: адзін з пенсіянераў, які меўся проста паглядзець фільм, Мікалай Люшля, быў вельмі ўзрушаны падзеямі, напісаў скаргу пракурору, дзе ўказваў і на тое, што ў выніку ягоны стан здароўя пагоршыўся. І неўзабаве памёр. Дарэчы, падчас налёту міліцыянтаў на Казловіцкі дом культуры Цімошак прасіла начальніка аховы правапарадку Слуцкага РАУС Дзмітрыя Шклярэўскага не чапаць і не весці допытаў пенсіянераў, якім больш за 70 гадоў, паколькі гэта магло прывесці да пагаршэння іхняга стану здароўя. Міліцыя да Цімошак не прыслухалася.

## За што?

Чаму прагляд фільма, які дэманстраваўся на дзяржаўных тэлеканалах, выклікаў такую нервовую рэакцыю ў Слуцкім раёне? Можа быць, справа тут у асобе Зінаіды Цімошак?

Яна неаднаразова дасаджала мясцовай уладзе. Яна была адной з першых у Слуцку, хто паставіў свой подпіс пад «Хартыяй–97» і адначасова агітавала ставіць подпісы пад дакументам сваіх землякоў. Уваходзіла ў кіраўніцтва ініцыятыўнай групы жонкі апальнага палітыка Міхаіла Чыгіра — Юліі Чыгір на парламенцкіх выбарах у 2000 годзе. Потым небеспаспяхова ўзялася за вырашэнне мясцовых праблем: у прыватнасці, прымусіла ўлады звярнуць увагу на стан старажытных могілак у Слуцку. Прайшло гэта ў 2011 годзе, дарэчы, з дапамогай грамадзянскага «суботніка», на які былі запрошаныя дэпутаты мясцовага райсавета. Зразумела, з дэпутатаў ніхто не прыйшоў, а кіраўніцтва мясцовай ЖКГ паведаміла, што на дэпутатаў у іх няма рыдлёвак. Тады актывісты самі знайшлі «імянныя» рыдлёўкі для дэпутатаў, павесілі на іх шыльды з прозвішчамі, і рыдлёўкі сталі выглядаць як крыжы. Улічваючы, што гэта было на могілках…

Дэпутаты моцна пакрыўдзіліся, а Цімошак прайшла праз суд за несанкцыянаванае мерапрыемства і за «маральныя страты» народных абраннікаў.

Не ў асобе справа, лічыць сама Зінаіда Цімошак. Паводле яе слоў, такія мерапрыемствы неаднаразова праводзіліся ў ДК вёскі Казловічы, як запланаваныя і ўзгодненыя мясцовым ідэалагічным аддзелам, і без такіх узгадненняў. Нядаўна, паводле Цімошак, такі «кіналекторый» праводзіў нейкі генерал са сваімі сябрамі: проста дамовіўся з ДК, прывёз сяброў, і яны глядзелі фільмы і ўзгадвалі маладосць. Улетку сама Цімошак з сябрамі праводзіла такія ж кіналекторыі з запрашэннем гісторыкаў з Мінска. «Мы слухалі расповеды пра гісторыю беларускай дзяржаўнасці, але не ў рэчышчы дзяржаўнай ідэалогіі. Аднак нам ніхто не замінаў і не перашкаджаў», — адзначыла яна.

Не думае Цімошак, што міліцыя неяк «перастрахавалася», каб пад відам кіналекторыя не сабралася нейкая група аднадумцаў з мэтай прыдумаць чарговую каверзу для мясцовых чыноўнікаў. Тады б яны проста паглядзелі б кіно і паслухалі Стужынскую, не робячы скандалу. «Увогуле, падчас суду начальнік аховы правапарадку Слуцкага РАУС Дзмітрый Шклярэўскі даводзіў, што ён прыехаў разабрацца, чаму ў непрацоўны час у ДК сабраліся людзі. Нібыта, ён ахоўваў дзяржаўны будынак ад людзей, і сам вызначае, калі ў ДК час працоўны, а калі не. Справа ж у тым, што ДК часцяком працуе не па звыклым графіку, а і ў суботу, і ў нядзелю, і па святах. Дый дырэктар Дому культуры можа ўвайсці ў яго ў любы момант, а не толькі па графіку. А на час прыбыцця міліцыі ён там быў», — сказала Цімошак.

На яе думку, справа ў тэме мерапрыемства. «Гэтая тэма, тэма Слуцкага паўстання, на самой Случчыне неяк негалосна забароненая. У Слуцкім музеі пра гэтыя падзеі няма ніводнай згадкі, ніводнага ўспаміну. Канешне, ёсць раённая кніга «Памяць», дзе выкладзена ўсё — ад заснавання Случчыны да нашых часоў, там і згадваецца пра паўстанне і рэпрэсіі, але гэтая кніга, пэўна, адзіная з такой згадкай. Да ўспамінаў пра паўстанне мясцовая ўлада ставіцца з недаверам і з падазронасцю. Штогод актывісты Партыі БНФ наведваюць месцы паўстання на Случчыне, і штогод за імі ездзяць узмоцненыя нарады міліцыі. І менавіта сама тэма, я мяркую, выклікала такую нервовасць у мясцовага кіраўніцтва», — даводзіць Цімошак.

## Мясцовая спецыфіка ці дзяржаўная палітыка?

Выпадак з Зінаідай Цімошак і фільмам пра Слуцкае паўстанне мог бы стаць анекдотам і недарэчнасцю, але, на жаль, падзеі ўсяго мінулага года падводзяць да думкі, што такое стаўленне дзяржавы да гістарычнай памяці ператвараецца ў дзяржаўную палітыку.

Чаго варты толькі абвешчаны грамадскасцю мінулы год Кастуся Каліноўскага! Да ягонай постаці з павагай ставіліся нават у савецкія часы — выбітны рэвалюцыянер, герой, кіраўнік сялянскага нацыянальна-вызвольнага паўстання. Але ў той час, як грамадства паўсюль святкавала




150-годдзе пачатку паўстання, дзяржаўныя ідэолагі сцвярджалі: аніякі Каліноўскі не беларускі герой, паўстанне інспіравана палякамі і шло на польскую карысць і гэтак далей. Карацей, з беларускага героя дзяржаўныя ідэолагі ад вялікага розуму ператваралі Каліноўскага ў нейкага калабаранта.

Кніга літаратуразнаўчых артыкулаў і эсэ Алеся Бяляцкага «Асвечаныя Беларушчынай» падалася некаму «экстрэмісцкай», і зараз забароненая да ўвозу ў Беларусь. Музей Максіма Багдановіча падлягае «рэарганізацыі» аж да знішчэння. «Экстрэмісцкімі» і зневажаючымі дзяржаву прызнаюцца нават фотаздымкі, змешчаныя ў альбоме «Press Photo Belarus», нягледзячы на тое, што яны неаднаразова і без перашкодаў з боку Мініфармацыі друкаваліся ў СМІ.

Дзяржава проста баіцца альтэрнатыўнага стаўлення да гісторыі — як найноўшай, так і старажытнай. Прыкладам, каардынатар адной з кампаній па святкаванні 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага, лідар кансорцыума «Еўрабеларусь» Улад Вялічка адзначае, што такі страх прысутнічае ва ўсім. «Постаць Каліноўскага і само паўстанне — гэта пратэстны матэрыял. Гэта падкрэслівае пратэстны патэнцыял беларускага грамадства і ў нейкім плане — грамадзянскую мужнасць беларусаў. Гэта падкрэслівае пратэст супраць тэндэнцыяў і рэжымаў, якія не прыжываліся на беларускай зямлі. І таму гэта вельмі супярэчліва для беларускай улады. З аднаго боку, немагчымасць выкрасліць паўстанне з гістарычнага кантэксту — нават у савецкія часы Каліноўскі падаваўся станоўчым героем. А з іншага боку, гэта небяспечна, таму што гэта — падкрэсліваць героя «несучаснага фармату», які нелаяльны і ідуць супраць плыні. Ці шмат у нас у падручніках такіх герояў? Чужых — колькі заўгодна, сваіх амаль ніводнага. Гэта проста страх паднязць тэму, якая можа спраакаваць людзей на разуменне ці нейкую дзейнасць, якая будзе не ў рэчышчы афіцыйнай палітыкі», — лічыць Вялічка.

Са Слуцкім паўстаннем, падаецца, тое ж самае. З аднаго боку, гэта гераічная гісторыя, а з іншага — начытаюцца падлеткі такіх гісторый, і ўзнікне, напрыклад, абарона Курапатаў альбо змаганне за Севастопальскі парк у Мінску. А ў Турцыі, між іншым, пратэсты супраць «ушчыльняльнай забудовы» ды вырубкі парка ледзьве не прывялі да адстаўкі ўрада…

Паэт і палітык Уладзімір Някляеў, які якраз і быў адным з ініцыятараў «году Каліноўскага», увогуле лічыць, што такая палітыка таксама грунтуецца на боязі. Але крыху іншай. «У мяне няма ўцямнага адказу, чаму дзяржава так паставілася да постаці Каліноўскага, які і ў савецкія часы лічыўся героем. Відаць, ёсць ідэалагічная ўстаноўка, што гісторыя Беларусі пачалася з сённяшняга дня. Напрыклад, музей гісторыі беларускай дзяржаўнасці, які створаны ў Адміністрацыі прэзідэнта, пачынаецца з постаці аднаго чалавека з пашпартам №1. Нічым, акрамя спробы падлізаць чалавеку з пашпартам №1, сітуацыю і з Каліноўскім, і са Слуцкім паўстаннем вытлумачыць немагчыма. Тая ж гісторыя з Машэравым: здавалася б, чыста савецкі чалавек, распачаў русіфікацыю, але… Праспект Машэрава ссунулі ўбок з цэнтральнай вуліцы, помнік Машэраву, што праектаваўся, дагэтуль не пастаўлены і гэтак далей. Чыноўнікі думаюць не пра гісторыю, а як гэты чалавек з пашпартам №1 паглядзіць на тое і на тое. А больш сур'ёзных прычынаў я не бачу», — лічыць ён.

## А што надалей?

На жаль, такая дзяржаўная палітыка боязі сваіх герояў шкодзіць не толькі беларускай культуры і гісторыі, але, як ні дзіўна, і беларускай эканоміцы. Пакуль мы чухаем патыліцу, як завабіць у краіну замежных турыстаў, літоўцы прысабечылі Вільню, Гедыміна і Вялікае Княства Літоўскае. І выдатна водзяць экскурсіі па замках, распавядаючы замежным турыстам пра першую еўрапейскую канстытуцыю — Статут ВКЛ — як пра свой персанальны здабытак. І пасмейваюцца з беларусаў: «Было вашае — стала нашае».

Пакуль мы аглядаліся, палякі хапнулі сабе Адама Міцкевіча з ягонымі паэмамі, і, дарэчы, не супраць лічыць сваім і Кастуся Каліноўскага. Гэта ж колькі гераічных блокбастараў можна зняць, абапіраючыся на такую тэматыку! І здымаюць, між іншым, але толькі не мы. Фільм Анджэя Вайды «Пан Тадэвуш» па Міцкевічу некаторыя кінаманы называюць «культавай драмай польскага кіно». А мы працягваем раздаваць сваіх герояў налева і направа.

Калядны баль у Мірскім замку прываблівае рускіх адзначаць Раство як П'ер Безухаў і Наташа Растова, а традыцыі старажытнага сярэднявечнага беларускага танца ўзнаўляюць гурткі энтузіястаў-аматараў. Між тым, «замануха» сярэднявечнага балю, на мой погляд, больш прывабная, чым расійскі «разгуляй».

З такімі падыходамі Беларусь можа застацца ўвогуле без гісторыі — толькі з «лініяй Сталіна» і партызанамі. Але хто ведае, ці не пападуцца ў наступным і беларускія партызаны «залішне гераічнымі» для беларускага чыноўніцтва?

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 13 студзеня, панядзелак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Прыгодніцкая камедыя «Астэрыкс і Абелікс у Брытаніі» (Францыя).
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Фантастычны баявік «Прывідны гоншчык» (ЗША - Аўстралія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладрама «Апошняя роля Рыты» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «Адмірал» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Шлюб па завяшчанні. Танцы на вуглях».
**23.05** «Навагодні агеньчык».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** Адмысловы праект.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.40** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Глядзець усім!».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вялікія таямніцы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Мінск-2013».
**20.30** Фільм «Цацка». Францыя, 1976г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: «ХОРаШОЎ» на Новы год».
**00.50** СТБ прадстаўляе: «На тым жа месцы ў той жа час». Навагодні выпуск.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Нож у аблоках» (Расія).
**10.05** Навіны надвор'я.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**11.55** «Пад грыфам «Вядомыя».
**12.35** Камедыя «Пра беднага гусара замоўце слова» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.30** Музычная камедыя «Кампаньёны» (ЗША).
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Нож у аблоках» (Расія).
**18.55** Імперыя песні.
**19.55** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Харватыя - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**21.35** КЕНО.
**21.40** Тэлебарометр.
**21.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.50** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.50** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 13.10, 18.05, 23.25, 01.20** «Калейдаскоп».
**08.05, 13.15, 01.25** «Год у гісторыі».
**08.20** «Карані».
**08.50** «Майстры і чаляднікі». Вышывальшчыцы.
**09.20** «Росчырк часу». Касцёл Святога Станіслава ў Магілёве.
**09.35** «Задача з трыма невядомымі». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**10.40, 21.45** «Дыя@блог». «Пра мову».
**11.05** «Праз Сусвет». Мастацкі фільм.
**13.30** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Віктара Лебедзева.
**13.55** «Фабрыка цудаў». Дак. фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў. Фільм 3-ці. «Мастак-пастаноўшчык».
**14.25** «Адлюстраванні». Францішка Урсула Радзівіл.
**14.50** «Там, дзе праклаадзены шлях». Гісторыя трамвая ў Санкт-Пецярбурзе.
**15.15** «Леташняя кадрыля». Мастацкі фільм.
**16.25** «Наперад у мінулае».
**16.50** Мультфільм.
**17.20** «Палескі пачастунак». Льняныкі.
**17.35** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Гродзенскі кляштар брыгітак.
**18.15** «Як на Стары Новы год...» Навагодняе музычнае тэлешоў з удзелам артыстаў беларускай эстрады.
**19.10** «Марозка». Фільм-казка.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ». 1-я серыя.
**22.10** «Сто песень для Беларусі. Наперад у мінулае». Навагодні канцэрт. Часткі 1-2.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.45** «Ты не паверыш!».
**09.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «І зноў добры дзень».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.30** Серыял «Мянтоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Уладзімір Шпакоў у серыяле «Шаман».

### МИР

**05.00** Ранішні інфармацыйны канал.
**08.15** М/ф «Падлоўчы».
**10.15, 00.15** М/ф «Ніхто не заменіць цябе».
**11.30** «Наша марка».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20, 03.10** Т/с «Клон».
**14.00** Д/ф «Рэальны свет».
**15.20, 23.25** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.10** Т/с «Суд».
**18.20** Т/с «Метад Лаўровай».
**21.20** Т/с «Бухта страху».
**23.00** «Беларусь сёння».
**01.30** Т/с «Заручальны пярсцёнак».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**08.05** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.35** Два на два (тэледыскусія): Каму выгадная пабудова АЭС у Беларусі?.
**09.05** Дакументальная гадзіна: «Рамін», дак. фільм, 2011 г., Літва–Грузія.
**10.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**11.20** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 5 серыя.
**12.10** ПраСвет.
**12.40** Два на два (тэледыскусія): Каму выгадна пабудова АЭС у Беларусі?.
**13.10** Зона «Свабоды».
**13.40** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**14.15** Дакументальная гадзіна: «Рамін», дак. фільм, 2011 г., Літва–Грузія.
**15.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**15.45** «Провады», драма, 2008 г., Японія.
**17.55** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 5 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** «Схаваныя злачынствы», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**23.10** «Бывай, Зямля!» («Снежны завулак 14»).
**00.05** Відзьмо-невідзьмо.
**00.30** «Навагодні канцэрт Змітра Вайцюшкевіча».
**01.35** Belsat Fest, канцэрт.
**02.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**04.10** Асабісты капітал.
**04.30** Аб'ектыў.
**05.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**05.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).

## 14 студзеня, аўторак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Серыял «Адмірал» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**16.35** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.55**«Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «Адмірал» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Шлюб па завяшчанні. Танцы на вуглях».
**23.05** Прэм'ера. Фільм «Гатэль «Мэрыголд»: Лепшы з экзатычных».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вялікія таямніцы».
**10.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Тэрыторыя памылак».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Цацка» (Францыя, 1976 г.).
**15.35** «Дзіўная справа».
**16.50** «Глядзець усім!».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Дзевяць ярдаў-2» (ЗША, 2003 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Зорны рынг». Навагодні выпуск.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Нож у аблоках» (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**11.55** Меладраматычны серыял «Пяшчотная зіма» («Беларусьфільм»-Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.05** Цела чалавека.
**14.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.50** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.55** Вышэй за дах.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыў «Нож у аблоках» (Расія).
**19.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Немец» («Беларусьфільм» - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.30** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**00.30** Хакей. КХЛ.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.20, 19.00, 23.50** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.25, 23.55** «Год у гісторыі».
**08.20** «Як на Стары Новы год...» Навагоднее музычнае тэлешоў.
**09.20** «Палескі пачастунак». Палюбэнікі.
**09.35** Серыял. «Мегрэ». 1-я серыя.
**10.30, 21.35** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**11.00** «Марозка». Фільм-казка.
**12.40, 23.20** «Свята далёкай зоркі». Памяці дыктара Беларускага радыё і тэлебачання Уладзіміра Бузука.
**13.15, 22.55** «Фабрыка цудаў». Дак. фільм 4-ы. «Аніматар».
**13.40** Мультфільмы.
**14.20** «Міфалагемы Родзіна». Дак. фільм пра вядомага беларускага мастака Алеся Родзіна.
**14.35** «Скарбніца Міншчыны». Заслаўе. Спаса-Праабражэнская царква.
**15.05** «Шчасце Алены». Сцэнарыст і рэжысёр Алена Турава.
**15.30** «Песні для душы». Навагодняя праграма.
**19.10** «Сыны Вялікай Мядзведзіцы». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ». 2-я серыя.
**22.00** «Новы год на ўсе часы».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Мянтоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Шаман».

### МИР

**05.00** М/ф «Электронная бабуля».
**06.10** Мультфільмы.
**08.00** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Любімыя акцёры».
**09.35** М/ф «Жаніцьба Бальзамінава».
**11.10** Т/с «Шаптуха».
**14.30, 23.00** Скетч-шоў «МасГарСмех».
**15.10** Т/с «Амазонкі».
**20.30** «Навіны Садружнасці. Культура».
**21.15** М/ф «Індыга».
**23.55** М/ф «Рэцэпт вядзьмаркі».
**01.35** М/ф «Чараўнік».
**03.35** «Народы Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 23.25, 01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Каму выгадная пабудова АЭС у Беларусі?.
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**10.50** «Дом», серыял: 18 серыя.
**13.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**14.20** Аб'ектыў.
**15.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**15.30** Два на два (тэледыскусія): Каму выгадная пабудова АЭС у Беларусі?.
**16.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**16.15** «Дом», серыял: 18 серыя.
**17.40** Дакументальная гадзіна: «Рамін», дак. фільм, 2011 г., Літва–Грузія.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.40** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.
**22.10** «Лонданцы», серыял, 2008 г., Польшча: 1 серыя.
**22.55** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**00.55** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дубоўка і мова.
**01.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**01.25** Аб'ектыў.
**02.05** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 15 студзеня, серада

**Беларусь 1**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Серыял «Адмірал» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**16.35** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «Адмірал» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**23.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Шлюб па завяшчанні. Танцы на вуглях».
**23.05** Прэм'ера. Фільм «Людзі Ікс: Пачатак. Расамаха».
**00.55** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не сніласся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** СТБ прадстаўляе: казачнае шоу «Беласнежка».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Дзевяць ярдаў-2» (ЗША).
**15.40** «Ежа багоў».
**16.50** «Глядзець усім!».
**17.20** «Міншчына».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Здані былых сябровак» (ЗША, 2009 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Меч». Серыял.

**Беларусь 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў „Нож у аблоках» (Расія).
**10.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**10.45** Іранічны дэтэктыў „Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**12.00** Меладраматычны серыял «Пяшчотная зіма» («Беларусьфільм» - Расія). 3-я серыя.
**13.10** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Немец» («Беларусьфільм» - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**16.00** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**17.05** Рэпарцёр.
**17.55** Дэтэктыў «Нож у аблоках» (Расія).
**19.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Немец» («Беларусьфільм» - Расія). 3-я і 4-я серыі.
**20.50** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.10** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь - Швецыя. Прамая трансляцыя.
**23.50** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.20** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).

**Беларусь 3**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.05, 18.45, 00.25** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.15, 00.30** «Год у гісторыі».
**08.20** «Новы год на ўсе часы».
**09.20** «Маем рэчы». Куфар.
**09.35** Серыял. «Мегрэ». 2-я серыя.
**10.20, 21.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.45** «Сыны Вялікай Мядзведзіцы». Мастацкі фільм.
**12.25, 00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака СССР Заіра Азгура.
**12.55, 23.35** «Фабрыка цудаў». Дак. фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў. Фільм 5-ы. «Ролі агучваюць...».
**13.25** «Скарбніца Берасцейшчыны». Старажытнае Бярэсце.
**13.55** «Адысея Гашкевіча». Дак. фільм.
**14.20** «Камертон». Творчасць джазавага музыканта, піяніста, віртуоза Данііла Крамера.
**14.45** Мультфільм.
**15.10** «Дарога да дому». Дак. фільм пра жыццё і творчасць мастака Барыса Цітовіча.
**15.40** «Цуды прыроды». Шатландыя. Байкал. Андалузія.
**16.10** «Ведай нашых!» Заслужаны майстар спорту Юлія Несцярэнка.
**16.20** «Скарбніца Міншчыны». Архітэктурныя помнікі Мядзельшчыны.
**16.50** «Карані».
**17.15** «Востраў». Творчасць расійскага рэжысёра Паўла Лунгіна.
**17.40** «Аляксандра-Неўская лаўра. ХХ стагоддзе». Дак. фільм.
**18.55** «Смяротная памылка». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ». 3-я серыя.
**22.00** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Мастацкі фільм.

**НТВ**

**06.40** «Таямнічая Расія».
**07. 30** «**Іх норавы**».
**08.05** «Цуд тэхнікі».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «І зноў добры дзень».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Мянтоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Шаман».

**МИР**

**05.00** Мультфільмы.
**06.30** М/ф «Жаніцьба Бальзамінава».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Аэрасвет».
**09.20** «Са свету па нітцы».
**09.45** «Прыгоды Македонскай».
**10.00, 01.35** М/ф «Помста і закон».
**12.35** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**13.15** М/ф «Апошняе імгненне».
**15.10, 21.00** Т/с «Апошняя сустрэча».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**23.50** М/ф «Індыга».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.10, 14.35, 00.00, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дубоўка і мова.
**08.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.35** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.
**10.05** Відзьмо-невідзьмо.
**10.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.20** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Чырвоная капэла».
**13.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дубоўка і мова.
**13.55** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**14.10** Аб'ектыў.
**14.50** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.
**15.20** Відзьмо-невідзьмо.
**15.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.35** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**17.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Чырвоная капэла».
**18.05** «Лонданцы», серыял: 1 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Занатоўкі натураліста».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** 54 %: Жонкі палітвязняў.
**22.00** «Парадокс», серыял: 2 серыя.
**22.45** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**23.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.55** Аб'ектыў.
**02.40** 54 %: Жонкі палітвязняў.

## 16 студзеня, чацвер

**Беларусь 1**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Джамайка».
**11.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Серыял «Адмірал» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**16.35** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія). Закл. серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «Адмірал» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Шлюб па завяшчанні. Танцы на вуглях».
**23.05** Прэм'ера. Фільм «Людзі Ікс: Першы клас».
**01.20** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не сніласся».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Дакументальны праект».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Здані былых сябровак» (ЗША, 2009 г.).
**15.40** «Містычныя гісторыі».
**16.50** «Глядзець усім!».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Пункт прызначэння» (ЗША - Канада, 2000 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Меч». Серыял.

**Беларусь 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў „Нож у аблоках» (Расія).
**10.10** Заўтра - гэта мы!.
**10.35** Іранічны дэтэктыў „Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**11.40** Меладраматычны серыял „Пяшчотная зіма» («Беларусьфільм» - Расія). Заключная серыя.
**12.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Немец» («Беларусьфільм» - Расія). 3-я і 4-я серыі.
**14.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.15** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**15.50** «Аўтабатл». Аўтамабільнае ток-шоў.
**16.25** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Нож у аблоках» (Расія).
**19.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Немец» («Беларусьфільм» - Расія). Закл. серыі.
**20.45** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.35** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія).
**00.30** Хакей. КХЛ.

**Беларусь 3**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.20, 18.45, 00.20** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.25, 00.25** «Год у гісторыі».
**08.20** «Цуды прыроды». Вялікабрытанія. Казахстан. Кітай. Чэхія.
**08.55** «Лабірынты». Чарэя Оскара Мілаша. Пра жыццё і творчасць французскага пісьменніка Оскара Мілаша.
**09.20** «Палескі пачастунак». Вясельны каравай.
**09.35** Серыял. «Мегрэ». 3-я серыя.
**10.20, 21.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.45** «Смяротная памылка». Мастацкі фільм.
**12.40, 23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Кузьмы Чорнага.
**13.10, 23.25** «Фабрыка цудаў». Дак. фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў. Фільм 6-ы. «Кампазітар».
**13.45** «Карані».
**14.10** «Элегія». Лёс маёнтка Іллі Рэпіна.
**14.35** «Пейзажы скрозь час». Амерыканскія імпрэсіяністы ў Жыверні.
**15.00** «З гістарычных крыніц. Мікола Калінковіч». Пра журналіста, даследчыка творчасці Блока, супрацоўніка КДБ, кандыдата гістарычных навук.
**15.15** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Мастацкі фільм.
**16.50** «Свет прыроды». Лясны прыгажун.
**17.05** «Лазер Алфёрава». Дак. фільм.
**17.35** «Камертон». Піяніст, кампазітар, джазмен Сяргей Жылін.
**18.00** «Найменні і вобразы». Народны майстар Уладзімір Лук'янец.
**18.15** «Канструктывізм». Дак. фільм.
**18.55** «Ацэола». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ». 4-я серыя.
**22.00** «Спакуса». Мастацкі фільм.

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «І зноў добры дзень».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Мянтоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Шаман».

**МИР**

**05.15** «Сакрэтныя матэрыялы».
**08.15, 18.20** Т/с «Метад Лаўровай».
**10.00, 00.25** М/ф «Проста Саша».
**11.30** «Дыяспары».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20, 03.15** Т/с «Клон».
**14.05** Д/ф «Рэальны свет».
**15.20, 23.35** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.10** Т/с «Суд».
**21.20** Т/с «Бухта страху».
**23.05** «Злачынства і пакаранне».
**01.40** Т/с «Заручальны пярсцёнак».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.20, 14.40, 23.50, 02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** 54 %: Жонкі палітвязняў.
**10.00** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.
**10.25** МакраФон: «Рок-карона–2008»: Канцэрт гурта «Ляпіс Трубяцкі».
**10.55** «Парадокс», серыял: 2 серыя.
**11.40** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**13.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.15** Аб'ектыў.
**14.55** 54 %: Жонкі палітвязняў.
**15.15** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.
**15.40** МакраФон: «Рок-карона–2008»: Канцэрт гурта «Ляпіс Трубяцкой».
**16.10** «Парадокс», серыял: 2 серыя.
**16.55** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**17.35** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дубоўка і мова.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Паўстанне 1831 года.
**17.55** «Час гонару», серыял: 68 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Дзіўны свет ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.40** Два на два (тэледыскусія): Карупцыя ў Беларусі.
**22.15** «Дзяўчаты з Аўшвіцу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**23.05** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 3 серыя.
**01.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.50** Аб'ектыў.
**02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.35** Два на два (тэледыскусія): Карупцыя ў Беларусі.

## 19 студзеня, нядзеля

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Прыгодніцкая меладрама «Загубленыя ў лясах» (Расія).
**08.50** Слова Мітрапаліта.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «СашаТаня».
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**14.25** Медычныя таямніцы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**16.05** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**17.05** Даўярай і правярай.
**17.35** Канцэрт, прысвечаны 15-годдзю МНС.
**19.20** Меладрама «Кахаць нельга забыцца» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Дэтэктыўны трылер «Ідэальны незнаёмец» (ЗША).
**23.45** Камедыйны серыял «СашаТаня».

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Вясельны перапалох».
**12.10** Прэм’ера. Прыгодніцкі фільм «Падарожжа Гулівера».
**13.35** Камедыя «Каўказская палонніца, ці Новыя прыгоды Шурыка».
**15.00** «Уладзімір Мулявін. Горкае шчасце песняра».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм’ера. «Ганна Нятрэбка. «І тут выходжу я!».
**17.20** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга. Фінал.
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм’ера. «Кубак прафесіяналаў».
**23.25** Камедыя «Выпадковыя знаёмыя».

### ТВ

**06.40** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**07.40** Фільм «Матрыца: рэвалюцыя» (ЗША - Аўстралія, 2003 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «З каханымі не раставайцеся» (СССР, 1979 г.).
**14.20** Фільм «Я кахаў вас больш за жыццё» (1985 г.).
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.40** «Аўтапанарама».
**18.10** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Заўсёды кажы «Так» (ЗША - Аўстралія, 2008 г.).
**22.40** «Прафесійны бокс».
**23.55** Фільм «Нарвежскі лес» (Японія).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Фільм-казка «Кароль-алень» (СССР).
**08.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.30** Тэлебарометр.
**09.35** Заўтра - гэта мы!
**10.05** Авантурная камедыя «Ашукаць усіх».
**12.00** «Аўтабатл». Аўтамабільнае ток-шоў.
**12.30** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**13.10** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.40** Забаўляльная шоў-праграма «Супер-Інтуіцыя. Каханне» (Расія).
**16.10** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.45** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор’я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Баявік «Цень якудза» (ЗША).
**22.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**23.50** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00, 12.55, 14.10, 00.50** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.00, 13.00, 18.45** «Размовы пра духоўнае».
**09.10** «АРТиШОК».
**09.35** «Камандзір з вёскі Белае». Дак. фільм пра лётчыка-касманаўта, Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Кавалёнка.
**10.10** «Выратаваць і зберагчы». Навукова-папулярны фільм.
**10.35** «Легенды Нясвіжскага замка». Дак. фільм.
**11.15** «Сінематэка». Творчасць заслужанай артысткі Беларусі Таццяны Мархель.
**11.55** «Вячэра». Тэлеспектакль.
**13.10** «Знахар». Мастацкі фільм. 1-я і 2- я серыі.
**15.20** «Без права на дубль». Надзя Рушава.
**16.05** Дзіцячы фільм. «Чароўны голас Джэльсаміна». 1-я і 2-я серыі.
**18.20, 22.00** «Культпрасвет».
**19.00** Сусветнае кіно. «Сад асалоды».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Канцэрт. Людвіг ван Бетховен. Сімфонія № 9.
**22.25** «Апаняшчэнне Марыі». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. М.Горкага па аднайменнай п’есе Поля Кладэля.

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.20** Дэтэктыў «Іржа».
**16.45** «Лепшы горад Зямлі».
**17.35** «Ленін. Чырвоны імператар».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Фільм «Я - Ангіна!».
**23.25** «Жыццё як песня: Сяргей Чумакоў».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «4:0 на карысць Танечкі».
**06.35** Мультфільмы.
**07.50** Праграма «Таямніцы Эрмітажа».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Зямля і неба».
**09.35** Праграма «Прыгоды Македонскай: зроблена ў Кітаі».
**09.50** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.10** Мастацкі фільм «Колер шафрана».
**13.10** Мастацкі фільм «Іншы».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі».
**23.30** Мастацкі фільм «Няма чаго дэклараваць».
**01.25** Мастацкі фільм «Колер шафрана».
**04.20** Праграма «Зямля і неба».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб’ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Дзіўны свет ката Філімона», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 26 серыя.
**08.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.00** Рэмарка (культурніцкая праграма): Чалавек года ў мастацтве.
**09.30** 54 %: Жонкі палітвязняў.
**09.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.15** Невядомая Беларусь: «Амерыканка. All included», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**10.45** Казкі для дзетак: «Дзіўны свет ката Філімона», «Прыгоды і паходы».
**11.15** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 2 серыя.
**12.00** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 26 серыя.
**12.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Пытаецеся – адказваем!
**12.40** «Будучыня працуе», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**14.10** «Парадокс», серыял: 2 серыя.
**14.55** «Напаказ», маст. фільм, 2011 г., Канада.
**16.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Першы падзел Рэчы Паспалітай.
**16.30** «Кар’ера Нікодэма Дызмы», серыял 6 серыя.
**17.30** «Час гонару», серыял: 69 серыя.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Эмілія Плятэр.
**19.10** Форум (ток-шоу): Казіно, казіно..
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Дэмакратыя. Год нулявы», дак. фільм, 2012 г., Бельгія.
**21.25** Фільматэка майстроў: «Стрэмкі» маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**23.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Казкі.
**23.55** «Кароль-вінароб», серыял: 13 серыя.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Кассир Всего

МЕРКАВАННЕ

# ЕЎРАМАЙДАН ДАЎ ЯНУКОВІЧУ ШАНС НА ПЕРААБРАННЕ

**Кіеўскі Еўрамайдан паступова трансфармуецца ў частку выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. Пра яе магчымы фармат і будучыню самога Еўрамайдану журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім палітолагам Юрыем Палянавым.**




***— Перш за ўсё, як вы разглядаеце феномен Еўрамайдану?***

— Каб адказаць на гэта пытанне, трэба зразумець, хто такі Віктар Януковіч. Януковіч і яго атачэнне, хацелі б мы таго ці не, найбольш адэкватна адстойваюць інтарэсы ўкраінскай алігархічнай буржуазіі. Ужо ў сілу сваёй класавай прыроды ім не характэрна нешта рабіць за проста так, а тым больш аддаваць суверэнітэт. Акрамя таго, Украіна па еўрапейскіх мерках — вялікая дзяржава, і нашы алігархі мелі і маюць свае геапалітычныя амбіцыі. Можна ўзгадаць пра тое, што Украіна ў свой час удзельнічала ў грамадзянскай вайне ў Таджыкістане, карабахскім канфлікце, дасылала войскі ў Гвінею, пастаўляла зброю ў Македонію падчас паўстання албанцаў. Калі падсумаваць усё сказанае, трэба адзначыць: Януковіч прадстаўляе ідэйную плынь, якая сфармавалася пры Кучму, асноўная задача якой — балансаваць паміж Масквой і Брусэлем, падключаючы час ад часу да шантажу Кітай. Менавіта сыходзячы з гэтай формулы і дзейнічае Януковіч. Сам Еўрамайдан таксама ёсць прадуктам такой палітыкі.

***— Вы паўтараеце папулярны ва ўкраінскіх СМІ тэзіс пра тое, што за арганізацыяй Еўрамайдану стаялі блізкія да Януковіча алігархі?***

— Відавочна. Гэта лепш за ўсё было бачна па падачы навінаў на каналах, якія належалі атачэнню прэзідэнта. Сам Еўрамайдан, які стартаваў за тыдзень да Вільнюса, быў патрэбны Януковічу для раскруткі Еўропы на крэдыты. Еўропа, назіраючы за праеўрапейскімі акцыямі ўкраінцаў, павінна была ахвотней выдаваць займы. Адначасова Еўрамайдан пужалі Маскву, дзе носіцца з ідэяй адраджэння СССР. У выніку першымі здалі нервы ў Пуціна, які выдаў Кіеву 15 мільярдаў.

***— Аднак Еўрамайдан стаіць дасюль? Чаму яго не разганяюць?***

— А нашто? Вертыкалі ён не пагражае. Акрамя таго, пачынаецца гульня, звязаная з выбарамі прэзідэнта ў 2015 годзе. Дзякуючы Майдану прэзідэнцкая адміністрацыя інструменталізавала апазіцыю. За кошт правакацый, накшталт імітацый штурму Майдану (штурмам назваць гэта нельга, з улікам таго, што напярэдадні нават не выключылі святло і мабільную сувязь), улада падтрымлівае ваяўнічы тонус сярод шараговых апазіцыянераў. У выніку апазіцыя цалкам завязла ў гэтым праекце і вымушана ўкладаць у Еўрамайдан усе свае фінансавыя рэсурсы. У адваротным выпадку гэта будзе разглядацца як маральная здрада. Да актыўнай фазы прэзідэнцкай кампаніі яшчэ год, і за гэты час спонсары могуць проста знікнуць. У такім разе, апазіцыянерам прыйдзецца ісці да таго ж Фірташа і пагаджацца на яго ўмовы.

***— А «Захад нам не дапаможа»?***

— Спрэчнае пытанне. Адзіная заходняя краіна, якая сапраўды мае адэкватны рэсурс і патэнцыйна здольная інвеставаць ва ўкраінскую апазіцыю, — Германія. Гэта можна пабачыць па тым, як заўзята нямецкая прэса падтрымлівае Еўрамайдан. Аднак на такі выпадак ва ўладзе існуе моцная контрзброя. Яе назва — Юлія Цімашэнка. Цалкам верагодна, што Цімашэнка выпусцяць з турмы напярэдадні выбараў, што цалкам змяшае карты апазіцыі. Ведаючы характар Юліі, можна не сумнявацца, што яна пойдзе ў кандыдаты. Акрамя таго, у яе ёсць зуб на лідараў Майдану, якія ў сваім ультыматуму на адрас прэзідэнта не згадалі пра неабходнасць яе вызвалення.

***— Ці можа Майдан прапанаваць свайго кандыдата? Прынамсі пра гэта кажуць прадстаўнікі так званай Грамадскай рады Майдану.***

— Грамадская рада Майдану — гэта варыяцыя паміж палітыканствам і дзейнасцю няўрадавых арганізацый у рамках адпрацоўкі грантаў. Галоўнае пытанне — грошы. Адкуль у гэтых людзей будуць грошы на ўтрыманне інфраструктуры Майдану. Там толькі арэнда сцэны і экрану каштуе столькі, колькі мы за ўсё жыццё не заробім. Бюджэту сярэдняй няўрадавай арганізацыі хапае на ўтрыманне двух функцыянераў (як правіла, гэта муж і жонка). Акрамя таго, большасць так званай грамадскасці Майдану — гэта прадстаўнікі з Заходняй Украіны і дэкласаваныя элементы, якія матэрыяльна залежаць ад лідараў апазіцыі. Таму, калі справа, напрыклад, дойдзе да таго, каб высветліць праз свабоднае галасаванне волю Майдану, ніякіх шансаў у Грамадскай рады не будзе.

***— Калі меркаваць па кіеўскіх інтэрнэт-форумах, кіяўляне вельмі не задаволеныя Еўрамайданам.***

— Сапраўды, стаўленне да Еўрамайдану з боку сталічнага абывацеля робіцца ўсё горшым і горшым. Усё пачалася з разбурэння помніка Леніну, што шмат хто зразумеў як замах на правы мясцовай грамады. З-за сутычак апазіцыі і «Беркута» кіеўскія бізнэсоўцы таксама адчулі пагрозу сваёй асабістай бяспецы. Аднак не ўсе сядзяць на інтэрнэт-форумах. Ёсць кагорта кіеўскіх пенсіянераў, якія ўжо ўзялі ў звычку раз на дзень ездзіць на Майдан на бясплатны абед. Я размаўляў з адной такой пенсіянеркай. Яна шкадуе, што Партыя рэгіёнаў так хутка зачыніла Антымайдан: тады для яе была б магчымасць сталавацца два разы на дзень. Увогуле, гэта вялікая трагедыя — у краіне існуе вялізарная армія маргіналаў, якія гатовыя быць марыянеткамі палітыкаў, не маючы ніякага інтарэсу да іх праграм.

***— Якім вы бачыце сцэнар выбараў 2015 года? Ці ёсць у Януковіча шанс?***

— Еўрамайдан даў Януковічу шанс на пераабранне. Справа ў тым, што рэсурсы, якія інвестуюцца ў Еўрамайдан, ідуць на мабілізацыю выключна правага выбаршчыка. Людзей, якія пры любым раскладзе прагаласавалі б супраць Януковіча. Не дарма на Майдане пануе любімая правымі нацыяналістычная эстэтыка, тэма казакоў, спадчыны АУН-УПА і г.д. Аднак да такой агітацыйнай прадукцыі абсалютна абыякавая большасць выбарцаў рускамоўных рэгіёнаў. Хутчэй за ўсё, яна яе пужае і прымушае кансалідавацца вакол Януковіча. Нават у цэнтры Украіны ў апазіцыі праблемы, пра што добра сведчыць значна больш сціплы характар яе падтрымкі ў параўнанні з 2004 годам. Гэтыя фактары дазваляць прайсці Януковічу ў другі тур. А пасля ён пачне гуляць на раскол апазіцыі, як гэта было ў 2010 годзе, калі дзякуючы Юшчанку адабраў у Цімашэнка частку дэмэлектарату. Прастор для дзеянняў і манеўру ёсць, паколькі апазіцыя не маналітная.

***— Што ўвогуле будзе з еўрапейскім вектарам Украіны пасля пуцінскага крэдыту?***

— Еўраінтэграцыя, паверце, нікуды не дзенецца. Як я казаў, геапалітычны баланс — гэта свядомы выбар нашай буржуазіі, і без еўрапейскай тэматыкі ён існаваць не можа. Пачынаючы з часоў позняга Кучмы, уся афіцыйная прапаганда працуе на лозунг, што наш гістарычны выбар — Еўропа. Што, натуральна, не замінае супрацоўнічаць з Расіяй. Сама ідэя Еўропы вельмі зручная алігархам. Па сутнасці, Еўропа выглядае як капіталізм, толькі больш справядлівы, чым ва Украіне. Іншымі словамі, пад еўраінтэграцыяй разумеецца паляпшэнне існуючай сістэмы, а не яе сістэмная перазагрузка ў выглядзе, напрыклад, перагляду вынікаў алігархічнай прыватызацыі.

***— Ці ёсць нешта пазітыўнае ў апошніх падзеях ва Украіне?***

— Думаю, ёсць. Народ перастаў проста так успрымаць папулісцкія лозунгі лідараў. Відавочна, у людзей ужо накапіўся нейкі палітычны вопыт, і яны спрабуюць мець сваю думку наконт таго, што адбываецца ў палітыцы. Мяркую, гэта вельмі важная і пазітыўная для ўкраінскага грамадства з'ява.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Якія ж мэты праследуе Масква, падтрымліваючы неэфектыўную беларускую эканоміку? Верагодна, шчодрасць Расіі тлумачыцца рашэннем беларускага ўрада прадаць шэраг найбольш прыбыльных прадпрыемстваў краіны — у тым ліку Мазырскі НПЗ і Мінскі завод колавых цягачоў (МЗКЦ) — расійскім кампаніям. Аднак яшчэ важней планы Крамля па ўз'яднанні былых савецкіх рэспублік пры дапамозе Мытнага саюза, у які на сённяшні дзень уваходзяць Расія, Казахстан і Беларусь. Гэты амбіцыйны праект з'яўляецца прыярытэтным у знешняй палітыцы Пуціна, і ён гатовы ўзнагароджваць за вернасць па гэтым пытанні.

**«Financial Times» (Вялікабрытанія)**

На імперыю Пуцінская Расія не цягне, таму што яна сыравінная, адсталая, арміі ў Расіі даўно няма, каб прымусіць сілай да такога саюзу. Значыць, хутчэй за ўсё, мы будзем гуляць у «саюз», гуляць у «імперыю». Лукашэнка ўмее гэта рабіць цудоўна.

**«Хвиля» (Украіна)**

Курс долара на беларускай валютна-фондавай біржы расце павольна, але ўпэўнена — амаль кожны дзень. Але мясцовыя ўлады наўрад ці адважацца на чарговую маштабную аднамоментную дэвальвацыю. Усе разумеюць: гэта пагражае ўладам «адкатам назад» і неабходнасцю зноў вырашаць ужо, здавалася б, вырашаныя пытанні: і з адтокам прафесіяналаў за мяжу, і з эміграцыяй, і з ростам крымінагеннай напружанасці. Таму дэвальвацыя ў 2014 годзе як інструмент выпраўлення складанай сітуацыі ў эканоміцы Беларусі цяпер не падыходзіць. Псіха-эмацыйная абстаноўка ў Беларусі ў 2014 годзе будзе пагаршацца. Яшчэ паўгода таму ў рэспубліцы пераважалі ўмерана- аптымістычныя настроі, а ўжо цяпер усе зноў чакаюць крызісу — і эканамічнага, і сацыяльнага. У 2014 годзе Беларусь, відавочна, захопіць агульнанацыянальная дэпрэсія. Не столькі эканамічная, колькі псіхалагічная. Беларусы стаміліся. Але спадзяванняў на перамены ў іх няма.

**«Росбалт» (Расія)**

Залаты дождж уліванняў у беларускую эканоміку — зусім не калядная дабрачыннасць, а цвярозы разлік Крамля. У Маскве разумеюць, што любыя субсідыі без эканамічных рэформаў банальна праядаюцца, як гэта і адбываецца ў Беларусі. А ў 2015 годзе, калі плануецца запуск Еўразійскага эканамічнага саюза, да чарговых прэзідэнцкіх выбараў Мінску для падтрымання стабільнасці зноў спатрэбіцца і валюта, і гарантаваныя пастаўкі расійскай нафты ў аб'ёме, не менш за 23 мільёны тон на год. У інтарэсах Расіі падыграць жаданню Лукашэнкі застацца пры ўладзе на пяты тэрмін. Але ў кіраўніка Беларусі застаецца ўсё менш шанцаў на доўгатэрміновае выцягванне крэдытаў і на шантаж Крамля.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Перад Новым годам беларусы змаглі ўздыхнуць з палёгкай — у бліжэйшы час дэвальвацыі не будзе. Чарговы расійскі двухмільярдны крэдыт дапаможа Беларусі пазбегнуць чарговых эканамічных бед, па розных ацэнках, у бліжэйшыя год-паўтара. Праўда, эксперты раяць не цешыць сябе адносна больш аддаленай перспектывы. Падтрыманне курсу беларускага рубля ніяк не паўплывае на якасць і запатрабаванасць беларускай прадукцыі. Паводле статыстыкі, 75 працэнтаў вырабленай прамысловай прадукцыі застаецца на складах. Гэта значыць, грошы на яе вытворчасць ужо затрачаныя, а яна не прынесла не толькі прыбылі, але нават і кампенсацыі выдаткаў.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ТЭТЧЭР ПЛАНАВАЛА ЎЖЫЦЬ СУПРАЦЬ ГАРНЯКОЎ ВОЙСКА

Брытанскай грамадскасці стала даступная новая частка архіваў кабінета міністраў Вялікабрытаніі, а дакладней, другога кабінету Маргарэт Тэтчэр (1983–1987). Сярод іншага, увагу СМІ прыцягнуў дакумент, прысвечаны погляду ўраду на рашэнне праблемы страйкаў шахцёраў. У 1984 годзе гарнякі некаторых рэгіёнаў арганізавалі пратэст, выступаючы супраць плану Тэтчэр аб паступовым закрыцці шахт. Пратэст не абмяжаваўся мірнымі прафсаюзнымі пікетамі і петыцыямі, а хутка перарос у сутычкі з паліцыяй, якія часам мелі трагічны фінал (так, у адной з боек былі забітыя два рабочых). Праблема для ўраду заключалася ў тым, што страйкоўцы адначасова сарвалі пастаўку вугалю, што пагражала некаторым сегментам эканомікі Аб'яднанага Каралеўства. Таму, калі верыць дакументам, Жалезная Лэдзі ўсур'ёз думала пра тое, каб ужыць супраць шахцёраў рэгулярныя войскі. Таксама была распрацаваная аперацыя «Halberd». Яна прадугледжвала ўжыванне войскаў у выпадку забастоўкі докераў. Докеры, сапраўды, забаставалі ў 1984 годзе, аднак іх страйк цягнуўся толькі дзесяць дзён. Што тычыцца шахцёраў, то да ўжывання войска справа не дайшла. Магчыма, таму, што ў мясцовую паліцыю былі ўкладзеныя фантастычныя па тых часах сродкі на набыццё тэхнікі, якая ўжываецца супраць маніфестантаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. ЗАРОБАК ВЫДАЮЦЬ АЛКАГОЛЕМ

Муніцыпалітэты некаторых раёнаў Амстэрдаму знайшлі амаль бясплатную працоўную сілу для прыбірання вуліц і іншых камунальных прац. Гэта — алкаголікі, якія згодныя атрымліваць заробак пляшкамі піва. У залежнасці ад якасці выканання працы, можна атрымаць аж да сямі доз. У дадатак, ім прапануюць бясплатны абед, пачак цыгарэт і 10 еўра. Як правіла, на такую працу пагаджаюцца адзінокія мужчыны-пенсіянеры. На думку ініцыятараў праграмы, такі падыход дапаможа інтэграцыі маргіналаў у грамадскае жыццё, выхаду з алкагольнай субкультуры і, адпаведна, з'яўленню новых каштоўнасцяў. Таксама важна тое, што ў ахвяраў зялёнага змея выпрацоўваецца нейкі ліміт спажывання, не кажучы пра тое, што заробак ім плацяць півам з нізкім утрыманнем алкаголю. Трэба прызнаць, што ідэя спадабалася. Напярэдадні Новага году колькасць жадаючых працаваць на карысць горада значна вырасла. Цікава, што праграму незвычайнай працы з алкаголікамі горача патрымала мусульманка Фаціма Элацік, бургамістр аднаго з раёнаў Усходняга Амстэрдаму. У сваю чаргу, у мэрыі Амстэрдаму, якую кантралююць хрысціянскія кансерватары, «піўны праект» завалілі як антымаральны. Дарэчы, упершыню такі метад прымянілі ў Канадзе.

**Паводле польскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ПАДЗЕННЕ НАЗАРБАЕВА ПРЫНЯСЕ КОЖНАМУ КАЗАХУ СТО ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ



Былы зяць Назарбаева, экс-функцыянер назарбаеўскага рэжыму, а зараз галоўны палітэмігрант Рахат Аліеў на сваёй старонцы ў Facebook паведаміў пра стварэнне ў эміграцыі альтэрнатыўнага ўраду Казахстана. Задача праекту — «каардынавацць дзейнасць апазіцыйных сіл і пратэстных груп, як у краіне, так і за яе межамі. Патрэбен адзіны апазіцыйны цэнтр, які б фінансаваў, праводзіў працу і гуртаваў нашы шэрагі, рухаючы магутную хвалю супраціву». Калі праца пойдзе, то, на думку Аліева, магчыма правядзенне «казахстанскага Майдану». Вынікам яго перамогі стане не толькі трыумф у краіне нормаў дэмакратыі, адкрыты суд над цяперашняй элітай, аднак і выплата кожнаму казахскаму грамадзяніну па 100 тысяч долараў ЗША. Іх плануецца ўзяць з актываў сям'і Назарбаева і яго асяроддзя. Усяго, паводле разлікаў Аліева, Назарбаеў скраў у казахаў каля 50 мільярдаў долараў. Таму адзін з накірункаў дзейнасці будучага апазіцыйнага ўраду будзе заключацца ў тым, каб «адсачыць банкаўскія рахункі і нерухомасць за мяжой Назарбаева і яго памагатых, сродкі з якіх пасля перамогі будуць вернутыя грамадству».

**Паводле казахскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. ПЕРШЫЯ НАСТУПСТВЫ ПЕРАХОДУ НА ЕЎРА

Як вядома, 1 студзеня Латвія перайшла на еўра. Праз тыдзень пасля рэформы можна казаць пра яе першыя вынікі. Пакуль галоўнае наступства — мноства скаргаў спажыўцоў на тое, што кошты выраслі пад выглядам канвертацыі. Калі верыць латышскім саюзам абаронцаў правоў спажыўцоў, для махлярства камерсанты актыўна ўжываюць такі банальны прыём, як адсутнасць інфармацыі пра кошт тавару ў латах (гэтага, дарэчы, патрабуе закон). Найбольш далёка пайшлі вадзіцелі сталічнага грамадскага транспарту, якія прыдумалі свае тарыфы за праезд, што супярэчаць афіцыйным. Ёсць і тэхнічныя праблемы. З-за пераходу на еўра чамусьці перасталі працаваць электронныя абанементы. Праўда, усе аглядальнікі згодныя, што апісаныя праблемы — часовыя. Як сведчыць вопыт іншых краін, якія далучыліся да зоны еўра, праз месяц усё цалкам стане на свае месцы.

**Паводле латышскай прэсы**

ЦІКАВА



**Нора Арнезедэр і Жерар Ланвен у новай экранізацыі легендарнага рамана Ан і Сержа Галон пра прагажуню, якая кідае выклік абставінам і каралю Францыі. У кінатэатрах краіны з 9 студзеня 2014 года**

# ВЯРТАННЕ АНЖАЛІКІ

**Алег НОВІКАЎ**

**У Францыі вырашылі мадэрнізаваць славутую кінасагу пра прыгоды Анжалікі. У снежні мінулага года на экраны выйшла версія яе прыгод, заснаваная на новым варыянце вядомай кнігі Ан і Сержа Галон (літаратурны псеўданім сямейнай пары Сімоны Шанжо і Усевалада Галубінава).**

Сярод шматлікіх сусветных рэкордаў кнігапродажаў асобнае месца займае фантастычны поспех кніжкі «Анжаліка» ў часы позняга СССР. Толькі за адзін 1990 год у СССР было прададзена 12 (!) мільёнаў асобнікаў гэтай кнігі. Гэта толькі афіцыйная статыстыка. Відавочна, што паралельна каласальнымі накладамі прадаваліся пірацкія экземпляры.

Увогуле, такое захапленне «Анжалікай» не ганьба. У адрозненні ад культу папсовых серыялаў «Санта-Барбары» і «Марыяны», у любові да Анжалікі нічога ганебнага няма. Анжаліку любілі і дасюль любяць у шматлікіх краінах свету. Напрыклад, у Японіі нават паставілі дзве оперы па матывах кніг. Агульны наклад прададзеных з 1956 года кніг пра прыгоды Анжалікі складае каля 63 мільёнаў экземпляраў. У свой час Ан Галон нават называлі новым Аляксандрам Дзюма.

Сама гісторыя прыгод арыстакраткі сярэдзіны XVII стагоддзя, якая шукае свайго асуджанага на смяротнае пакаранне мужа па ўсім свеце, перакладзена на 20 моваў. У Францыі даўно існуе цэлы рух фанатаў Анжалікі. Прычым гэта не проста аматары пачытаць або паглядзець кіно. Фанаты, прааналізаваўшы ўсе старонкі прыгод Анжалікі, устанавілі, што яна паходзіць з правінцыі Пуату. А яе прававобраз, на іх думку, — сапраўды існаваўшая ў XVII стагоддзі нейкая Сузана дэ Руж. Яе, таксама, як Анжаліку ў маладосці, выдалі замуж за арыстакрата, які пасля канфлікту з каралём быў асуджаны на смерць. Аматары Анжалікі арганізуюць цэлыя туры на радзіму прататыпа свайго куміра.

Пры гэтым сама аўтарка Анжалікі (лічыцца, што ў асноўным кнігі пісала Сімона Шанжо, а не яе муж) дасюль не прызналася, адкуль яна ўзяла сюжэт сваёй эпапеі і з каго яна спісала вобраз. Дакладна вядома, што ў дзяцінстве яна вельмі цікавілася гісторыяй сярэдневечнай Францыі, а сесці за напісанне кніжкі пра Анжаліку яе натхніў муж (дарэчы, геолаг і хімік па адукацыі, як і муж Анжалікі граф Жафрэй дэ Пейрак). Да таго, як заняцца «Анжалікай», Сімона спрабавала рэалізаваць сябе ў жанры рэпартажу і феміністкага раману.

Парадаксальна, аднак першым набыць правы на кнігу пра прыгоды «Анжалікі» пагадзілася не французы, а нейкае нямецкае выдавецтва. Здарылася гэта ў 1956 годзе. Толькі праз год кнігу перавыдалі ў Францыі. Яна прынесла Ан Галон шалёную папулярнасць. Яшчэ праз пару гадоў кніга выйшла за акіянам і мела таксама выключна пазітыўныя ацэнкі чытацкай аўдыторыі. Нядзіўна, што літаратурныя агенты адразу атакавалі Сімону Шанжо з прапановамі працягнуць апавяданне пра «Маркізу анёлаў». Шанжо пагадзілася. Усяго з таго часу было выдадзена 13 кніг. Па сюжэту, Анжаліка ўсё ж знайшла свайго мужа Жафрэя і адправілася з ім і сваімі дзецьмі ў Амерыку. У апошняй кнізе «Перамога Анжалікі» гераіня перамагае з дапамогай індзейцаў усіх сваіх ворагаў.

Хаця да 1964 года ў свеце было прададзена больш за 60 мільёнаў кніжак пра Анжаліку, усе пагаджаюцца, што сапраўдным культурным феноменам Анжаліка стала пасля выхаду ў тым жа годзе першага фільму «Анжаліка — Маркіза анёлаў». Праца рэжысёра Бернарда Бордзіера з Мішэль Мерсье ў галоўнай ролі спадабалася гледачам. Пасля было яшчэ 4 фільмы. У 1990-я гады былі спробы зняць па сюжэту тэлевізійны серыял, аднак пасля пілоту ад ідэі адмовіліся. На думку прадзюсараў, актрысы, якая б магла быць не горш за Мішэль Мерсье, на той час было.

Самае смешнае, аднак, было наперадзе. Прыкладна ў 1990-я гады нечакана высветлілася, што Анжаліка, якую мы ведаем, не сапраўдная. Калі верыць Сімон Шанжо, якой, дарэчы, было ўжо за 70 гадоў, усе тэксты, што яна прыносіла ў выдавецтва, праходзілі жорсткую рэдактуру. У выніку ад арыгінальнага тэксту, калі зноў жа верыць Шанжо, заставалася вельмі мала. Таму ў сярэдзіне 1990-х гадоў Шанжо выступіла з амбіцыйным праектам — яна вырашыла перапісаць з наноў усе выдадзеныя раней 13 кніжак пра прыгоды Анжалікі.

Сімона не жартавала. Спачатку яна моцна пасварылася з уладальнікамі правоў на друк яе твораў. Пасля шматлікіх судовых працэсаў яна атрымала правы на карэкцыроўку «Анжалікі». Дарэчы, за сваю настойлівасць яна атрымала ад аднаго з саюзаў літаратараў спецыяльную прэмію. Літаратуразнаўцы, праўда, крытычна ацэньваюць творчасць Сімоны Шанжо.

Калі ўжо гаворка зайшла пра прафесійную ацэнку творчасці Шанжо, нельга прайсці міма стаўлення да Анжалікі прафесійных гісторыкаў. Гісторыкі, як не дзіўна, не вельмі крытыкавалі кнігі. На думку прэсы, такая талерантнасць звязаная з тым, што прыгоды Анжалікі разбурылі рэспубліканскае табу. Амаль два стагоддзя вобраз Людовіка XIV, які па сюжэту кнігі заляцаецца да Анжалікі, быў выключна негатыўным. Лічылася, што выяўляць манарха інакш палітычна некарэктна. У кнізе Ан Галон кароль выглядае як жывы чалавек са сваімі часам пазітыўнымі, а часам негатыўнымі забабонамі. Пасля трыумфу «Анжалікі» гісторыкам стала лягчэй ставіць пад сумнеў догмы рэспубліканскай гістарыяграфіі.

Вяртаючыя да лёсу Анжалікі. Новая кінаверсія яе прыгод падаваная якраз на мадэрнізаванай гісторыі. У галоўнай ролі — Нора Арнезэдэр, якую мы ведаем па фільмах «Код доступу «Кейптаун» і «Парыж, Парыж». А Жафрэя дэ Пейрака ўвасобіў Жэрар Ланвен.

З першых рэцэнзій цяжка зразумець, у чым прынцыповая розніца паміж новай стужкай і легендарнымі фільмамі з удзеламі Мішэль Мерсье. Аднак прэм'ера новай «Анжалікі» ўсё роўна стала вялікай культурнай падзеяй. Напярэдадні рэлізу ў прэсе разгарнулася дыскусія наконт феномену галоўнага персанажу твору. Некаторыя культуролагі нават мяркуюць, што Анжаліка можа скласці канкурэнцыю такім жаночым сімвалам Францыі, як Жана д'Арк і Марыяна.

Акрамя таго, актыўна дыскутуецца тэма, наколькі Анжаліку можна лічыць феміністкай. З аднаго боку, яна не цягне на такі тытул. Яна не ставіць пад сумнеў асновы рэакцыйнага манархіцкага ладу і ўпарта шукае мужа. З іншага боку —Анжаліка маніфестуе, што нетрадыцыйна для жанчыны XVII стагоддзя: узначальвае вулічную банду або выступае заснавальнікам і менеджарам цэлага прадпрыемства.

Застаецца дадаць, што галоўная загадка чакае нас наперадзе. Ан Галон паабяцала, што пасля таго, як яна перапіша ўсе 13 раманаў пра Анжаліку, яна выдасць заключны раман серыі. Па словах рэдакцыі, якая выкупіла правы на друк кнігі, нас чакае сенсацыя. Ужо вядома папярэдняя назва кнігі — «Анжаліка і французскае каралеўства».

ПАРАЛЕЛІ

# ПРАЗРЫСТЫЯ ПАЎНОЧНАКАРЭЙСКІЯ ВЫБАРЫ

Алег НОВІКАЎ

**Чысткі ўнутры паўночнакарэйскага кіраўніцтва выклікалі вялікі інтарэс да прызначаных на сакавік выбараў у парламент КНДР.**



Заканадаўчы орган КНДР называецца Вярхоўны Народны Сход. У міжнароднай прэсе пра яго пішуць выключна ў сувязі з рознымі кур'ёзамі і скандаламі. Хіба, напрыклад, можна прайсці міма інфармацыі пра тое, што спікерам паўночнакарэйскага парламента з'яўляецца адзін з самых пажылых палітыкаў на планеце. Гэта Кім Ён Нам, які нарадзіўся ў 1928 годзе.

Апошнія выбары ў Вярхоўны Народны Сход, напрыклад, трапілі ў фокус увагі медыя з-за спекуляцый вакол прозвішча пераемніка тады яшчэ жывога, але ўжо відавочна моцна хворага Кім Чэн Іра. Эксперты спрабавалі назваць імя будучага правадыра КНДР за кошт аналізу спісу родных Кіма, якія прайшлі ў парламент.

Іншыя аспекты дзейнасці Вярхоўнага Народнага Сходу міжнародную грамадскасць мала цікавяць. І таму ёсць простыя рэзоны. Па-першае, па канстытуцыі парламент КНДР — не пастаянна дзеючы орган. Як і ўсе парламенты былых савецкіх краін, ён збіраецца два разы на год, каб ухваліць нейкія важныя рашэнні. Напрыклад, менавіта Вярхоўны Народны Сход павінны прымаць бюджэт, прызначаць Вярхоўнага кіраўніка і старшыню Камітэта абароны. Фактычна, функцыі заканадаўчага органу выконвае прэзідыум, які працуе ў зачыненым рэжыме. Акрамя таго, у КНДР з канца нулявых вырасла роля Камітэту абароны, што замацавана зменамі Канстытуцыі. Гэты камітэт — па сутнасці цалкам аўтаномны ад парламенту дзяржаўны выканаўчы орган, рашэнні якога абавязковыя да выканання ўрадам.

Лепшым доказам парадыйнага характару паўночнакарэйскага парламентарызму ёсць выбарчая статыстыка. Апошнія парламенцкія выбары ў КНДР (яны мелі месца ў сакавіку 2009-га) прайшлі на безальтэрнатыўнай аснове, з адным кандыдатам на кожную выбарчую акругу. Пры гэтым усе кандыдаты былі вылучаныя ад блоку «Адзіны дэмакратычны айчынны фронт» — тутэйшы аналаг Блоку камуністаў і беспартыйных, які існаваў у СССР. Праўда, у КНДР у гэты блок уваходзяць таксама тры фантомныя партыі, у тым ліку сацыял-дэмакраты.

Усяго ў 2009 годзе ў Вярхоўны Народны Сход было абрана 687 дэпутатаў. Паводле афіцыйных дадзеных, на выбарах прагаласавала 99,98% зарэгістраваных выбаршчыкаў, што больш, чым на выбарах мінулых гадоў. Так, у 1998 годзе да выбарчых урнаў прыйшлі 99,85% грамадзян КНДР, у 2003-м — 99,90%.

Такая элегантная перамога нікога не шакуе з улікам таго, што працэдура галасавання ў КНДР цалкам празрыстая. Празрыстая ў тым плане, што выбаршчыкі запаўняюць бюлетэні не ў спецыяльных кабінках, а наўпрост перад сябрамі камісіі, якія ўважліва сочаць за тым, каб электарат зрабіў правільны выбар. Відавочна, што спроба галасаваць супраць можа мець адпаведныя прававыя наступствы. Пакаранне чакае нават тых, хто выпадкова сапсаваў выбарчы дакумент.

Увогуле, галасаванне ў КНДР уяўляе сабой добра адпрацаваны рытуал: выбаршчыкі спачатку нізка кланяюцца партрэтам Кім Чэн Іра і Кім Ір Сена, што вісяць на сцяне. Затым двума рукамі бяруць выбарчы бюлетэнь і апускаюць яго ў скрыню. Пасля галасавання патрабуецца ісці святкаваць падзею на народныя гулянні.

Як не дзіўна, нават у такой сітуацыі магчыма выказаць сваю нязгоду з курсам ураду. Падчас выбараў 2009-га рэпарцёры, якія аглядалі выбары, пісалі пра тое, што ў шматлікіх гарадах невядомыя псуюць плакаты з выявай кандыдатаў.

Думаецца, што спецслужбы КНДР ужо ўзялі той пратэст пад кантроль і на гэтых выбарах будуць намагацца не дапусціць рэцыдываў. Праўда, галоўная інтрыга прызначаных на 9 сакавіка выбараў заключаецца, натуральна, не ў гэтым. Гэта першыя выбары з снежня 2011-га, калі Вярхоўным кіраўніком стаў малады Кім Чэн Ын. Акрамя таго, у Пхеньяне ідзе маштабная зачыстка. Яе ахвярай стала старая гвардыя Кім Чэн Іра на чале з дзядзькам дыктатара Чан Сон Тхэкам. Чан Сон Тхэк, якога пакаралі смерцю ў снежні, лічыўся другім па магутнасці чалавекам у паўночнакарэйскай дзяржаве. На думку шэрагу экспертаў, гэты ўплывовы палітык быў адхілены ад улады маладым лідарам КНДР, які жадае пазбавіцца ад «шэрага кардынала» і бацькавых кадраў.

Назіральнікі пішуць, што нядаўна пакараны смерцю дзядзька быў таксама блізкім сябрам спікера парламента і яго жонкі. СМІ у Паўднёвай Карэі ўпэўненыя, што з гэтай нагоды рыхтуецца змена старшыні Вярхоўнага Народнага Сходу. Таксама чакаецца карэкцыя спісу дэпутацкага корпусу. Як лічаць у Сеуле, выбары пакажуць, наколькі далёка зайшла ў КНДР кадравая рэвалюцыя, што праводзіць Кір Чэн Ын.

У Паўднёвай Карэі таксама баяцца, што следствам барацьбы кланаў будзе рост напружанасці ў рэгіёне. Быццам, маладыя ваўкі зацікаўленыя ў эскалацыі канфлікту на карэйскім паўвостраве, што дапаможа ім за кошт выбуху патрыятызму легітымізавацца ў вачах суайчыннікаў. Ветэраны, быццам, выступаюць за мірнае суіснаванне з Поўднем. На падставе такой інфармацыі Сеул ужо папрасіў Вашынгтон узмацніць амерыканскія гарнізоны, якія знаходзяцца ў Карэйскай рэспубліцы. Да 1 лютага з ЗША ў Паўднёвую Карэю будуць накіраваныя 800 жаўнераў і 40 танкаў тыпу «Abrams». Усяго, нагадаем, тут знаходзіцца 28 тысяч амерыканскіх вайскоўцаў.

Зачыстка ў КНДР, часткай якой, відавочна, будуць выбары, таксама ўзняла інтарэс да ролі Кітаю. Прэса піша, што Чан Сон Тхэк быў лабістам кітайскіх інтарэсаў. Паводле ацэнкі аналітыкаў, адстаўка высокапастаўленага чыноўніка можа негатыўна адбіцца на рэалізацыі сумесных эканамічных праектаў. Пекін, як бы рэагуючы на такія плёткі, узяў дыстанцыю ад падзей у Пхеньяне, заявіўшы, што расправа над Чан Сон Тхэкам ёсць унутраная справа КНДР. З іншага боку, шмат хто звярнуў увагу, што журналісцкая качка пра тое, што ў рамках пакарання Чан Сон Тхэка жывога кінулі на абед 130 галодным сабакам, прыйшла менавіта з Кітаю. Па сутнасці, гэту дэзу расцанілі як пробу дыскрэдытацыі Пхеньяна і знак таго, што паміж краінамі ідзе халодная вайна.

Як бачым, выбары будуць дастаткова забаўныя. У тым ліку, вельмі цікава, колькі працэнтаў атрымае сам Кім Чэн Ын, які, як гэта патрабуе кодэкс Вярхоўнага лідара, таксама павінен балатавацца. На мінулых выбарах за папярэдняга Вярхоўнага лідара Кім Чэн Іра аддалі свае галасы 100 працэнтаў выбаршчыкаў. Яўка па гэтай акрузе склала таксама 100 працэнтаў. Калі Кім Чэн Ын намалюе сабе хоць на 0,1 працэнт менш, то яго можна будзе лічыць амаль лібералам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### ЭЙСЕБІА ДА СІЛЬВА ФЕРЭЙРА

Легендарны партугальскі футбаліст, уладальнік залатога мяча, памёр 6 студзеня. Яго смерць прымусіла ўзгадаць, якую важную ролю адыгрываў футбаліст для захавання партугальскай каланіяльнай імперыі і легітымізацыі дыктатуры Салазара, які кіраваў Партугаліяй з 1933-га па 1970 год. Прыезд Эйсебіа з Мазамбіка ў метраполію ў 1961 годзе супаў з пачаткам барацьбы за незалежнасць у калоніях Партугаліі ў Афрыцы (Ангола, Мазамбік і Гвінея-Бісау). Дзяржаўныя прапагандысты адразу паклалі вока на маладога футбаліста сталічнай «Бенфікі». Яго гісторыю жыцця прыводзілі як доказ таго, што любы чарнаскуры жыхар партугальскіх калоній здольны дабіцца ўсяго пры існуючым парадку. Але гэта быў далёка не пік палітычнай кар'еры Эйсебіа. Пасля таго, як ён стаў героем чэмпіянату свету ў Англіі ў 1966-м, Эйсебіа прызначылі неафіцыйным паслом партугальскай дыктатуры. Яго місія заключалася ў тым, каб наведваць розныя міжнародныя мерапрыемствы і распавядаць пра дасягненні рэжыму Салазара ва ўсіх сферах дзейнасці. Па сутнасці ён займаўся гэтым да самага падзення дыктатуры ў 1974 годзе, чым выклікаў гнеў музыкаў. Менавіта музыкі раней разглядаліся як неафіцыйная візітоўка Партугаліі. Пазней футбаліст прызнаваўся, што не надаваў сваім палітычным заявам вялікай увагі, паколькі з-за футболу не разбіраўся ў палітыцы, і ўвогуле быў далёкі ад праблем Афрыкі.



### АДХАМ АХМЕДБАЕЎ

Ахметбаеў — міністр унутраных спраў Узбекістану. Паводле новай інструкцыі МУС, грамадзяне Узбекістана, якія хочуць здзейсніць турыстычныя паездкі ў іншыя краіны, павінны падпісаць у турфірме заяву пра тое, што не будуць прасіць палітычнага прытулку. Патэнцыйны ўзбекскі турыст павінен заявіць, што ён не падвяргаецца ва Узбекістане ні палітычнаму, ні рэлігійнаму пераследу. Калі ж, знаходзячыся ў чужой краіне, ён усё ж звернецца з просьбай пра палітычны прытулак, то на радзіме яму будзе пагражаць крымінальная адказнасць. Якое непасрэдна пакаранне прадугледжана, і ў адпаведнасці з якім законам, ніхто не ведае. Затое вядома, што ўказанне было спушчана «зверху» ў святле барацьбы з гандлем людзьмі. З нядаўніх часоў органы міліцыі і т.зв. махалінскіх (квартальных) камітэтаў сталі патрабаваць, каб грамадзяне добраахвотна рабілі справаздачы перад імі пра свае замежныя паездкі. Хутчэй за ўсё, мера звязаная з цяперашняй актывізацыяй эміграцыйных апазіцыйных цэнтраў, якія абяцаюць правядзенне ва Узбекістане ў самай блізкай будучыні аранжавай рэвалюцыі.

### ГЕОРГІЙ ПАЛТАЎЧАНКА

Кіраўнік гарадской адміністрацыі Санкт-Пецярбурга прапанаваў незвычайна адсвяткаваць 70-ю гадавіну зняцця блакады Ленінграду, якую горад на Няве будзе адзначаць гэтай зімой. Сярод іншага, з 25 па 27 студзеня ў цэнтры горада плануецца арганізаваць «гістарычныя рэканструкцыі, інсталяцыі і выставы, якія перададуць атмасферу жыцця блакаднага Ленінграда. Прычым не проста рэканструкцыі, а «рэканструкцыі з уцягваннем жыхароў і гасцей горада ў дзеянне». Шмат хто ў горадзе лічыць гэтую ідэю чыноўнікаў проста вар'яцкай. Сапраўды, не зразумела, што мае намер «рэканструяваць» мэрыя? Артабстрэлы? Голад? Раздачу па 125 грам хлеба ў дзень? Узняліся супраць ідэі жывых рэканструкцый і аб'яднанні блакаднікаў. «Блакада Ленінграда — не рыцарскі турнір. Голад і бамбёжкі, сотні тысяч ахвяраў, пажары і разбурэнні — памяць і гора ленінградцаў, а не матэрыял для кардонных «рэканструкцый» на вуліцах», — гаворыцца ў адной з заяў блакаднікаў. Хаця ёсць думка, што ніякіх рэканструкцый на самай справе рабіць і не планавалася. На думку апазіцыі, нехта збіраўся ціха засунуць лапу ў гарадскі бюджэт. Ведома, што кошт праекту жывых рэканструкцый складае 8 мільёнаў расійскіх рублёў (каля 200 тысяч долараў ЗША).



▸ СПАДЧЫНА

# ДВА ТЫДНІ Ў КАМЕРЫ-АДЗІНОЧЦЫ

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА, ПРАЗАІКА, ДРАМАТУРГА, ВЯЗНЯ СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ ТОДАРА ЛЕБЯДЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

**6 студзеня 2014 года спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння двойчы рэпрэсаванага беларускага паэта, драматурга, празаіка Тодара Лебяды (Пятра Шырокава) (1914–1970). Таго самага Тодара Лебяды, які ўпершыню ў беларускай літаратуры смела і адкрыта паказаў жахі сталінскага тэрору, знішчэнне беларускай нацыі. Імя літаратара ў 1940–1980-х гадах было выкраслена з гісторыі беларускай літаратуры. Але час вяртае таленты з небыцця. Вяртаецца паціху і творчасць Тодара Лебяды.**



Тодар Лебяда, 1956 г.

### Пачатак

Ён любіў Беларусь, любіў свой родны горад Віцебск, дзе нарадзіўся і вырас, і якому прысвяціў безліч паэтычных радкоў.

*Ёсць рэчка такая,*
*Лучосай завецца,*
*Над рэчкаю сад наш і дом;*
*Там спелыя вішні*
*Ружовым суквеццем*
*Схіляюцца ўніз*
*Над вадой...*

Рана застаўся без бацькі, выхаваннем сына займалася маці Настасся Карпаўна Паедава. Пасля Віцебскай сямігодкі паступае ў рамеснае вучылішча чыгуначнікаў. Яшчэ ў школе Пятрок пачынае пісаць вершы, а ўжо ў вучылішчы цвёрда вырашае займацца літаратурай. У 1933 годзе паступае ў Мінскі педагагічны інстытут. Яго нарысы і вершы друкуюцца ў газетах «Віцебскі рабочы», «Савецкая Беларусь» і «Піянер Беларусі». У інстытуце ён знаёміцца і сябруе з Уладзімірам Клішэвічам, Масеем Сяднёвым, Якубам Ермаловічам, Міколам Гваздовым і іншымі аўтарамі-пачаткоўцамі. Тут ён знаёміцца і з яўрэйкай Басяй Цыпінай, якая была на сем гадоў старэйшая за яго. Але яна ўмела прывабіла беларускага рахманага хлопца.

Пра гэта добра напісаў у сваім рамане «Раман Корзюк» (Нью-Ёрк — Мюнхен, 1985) Масей Сяднёў:

> «...Скончылася лекцыя Піятуховіча, і студэнты высыпалі на перапынак на калідор... Пятрок Шыракоў (у рамане М. Сяднёва напісана Шыракоў. — С.Ч.) з Цыпінай і з некаторымі іншымі студэнтамі заставаліся ў аўдыторыі, на калідор не выходзілі. Цыпіна карміла Шыракова бутэрбродамі, якія яна прыносіла з дому і якімі яна спадзявалася ўтрымаць пры сабе галоднага Шыракова. Шыракоў напачатку адмаўляўся ад пачастунку, але Бася ўмела яго ўгаварыць, і Пятрок згаджаўся, вымаў з кішэні сьцізорык і гаварыў:
>
> «Ну, калі ты ўжо гэтак просіш, адрэжу ад цябе на капейку!»
>
> Потым Пятрок пачаў адразаць і на рубель. Нарэшце, Пятрок сьцізорыка ўжо не вымаў, а браў Басіны бутэрброды цалкам... Гэтак вось і цяпер, з'еўшы бутэрброд, ён выцягнуў за руку з-за стала Басю і закружыўся з ёй у вальсе каля прафэсарскай кафэдры. Вальс ён граў сам сабе на губах. Трымаючы Басю шчыльна, але настолькі, каб можна было сваім корпусам адкінуцца назад, Пятрок кружыў Басю да шаламлівасці, і яна, быццам у вялікай жарсьці, клала яму сваю галаву на плячо, заглядаючыся ў ягоныя вочы знарок спакусліва і міргліва. Потым ініцыятыву забірала Цыпіна, пачынала знарок круціць Петрака налева, ведаючы, што ён умее танцаваць толькі ў адзін бок. Гэта называлася вальсам Цыпінай. Прысутныя смяяліся і білі ім у ладкі...».

У 1936 годзе, хоць шлюб і не быў зарэгістраваны, Бася Цыпіна нарадзіла ад Пятра Шырокава дачку Алесю, якую ў пасведчанні аб нараджэнні так і запісала: Шырокава Аляксандра Пятроўна, 1936 года нараджэння...

### Рэпрэсіі

Але ў гэты час бацьку Алесі і яшчэ адзінаццаць студэнтаў інстытута абвінавацілі ў «буржуазным нацыяналізме». Яны апынуліся аж у Новасібірскай вобласці. Пятро Шырокаў быў асуджаны на пяць гадоў, Якуб Ермаловіч і Масей Сяднёў — на шэсць гадоў. Шырокаму ўдалося ўладкавацца кавалём, а некаторых яго сяброў закінулі аж на Камчатку.

За сувязь з «ворагам народа» Басю Цыпіну на апошнім курсе выключылі з інстытута. Работу ў Мінску ёй не давалі, сачылі за кожным крокам. Але настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй не хапала, і таму яе літасціва накіравалі ў Смалявіцкую сярэднюю школу выкладаць беларускую мову і літаратуру. З ёю паехала і дачка.




Часопіс «Тэатральная Беларусь» упершыню ў 1995 годзе апублікаваў п'есу Тодара Лебяды «Загубленае жыццё»



Тодар Лебяда з жонкай Басяй Цыпінай (Галінай Ільінічнай Шырокавай), 1959 г.

У Смалявічах Басі Цыпінай жылося вельмі цяжка: бясконцыя праверкі то з раённага аддзела адукацыі, то з райкама партыі, то з КДБ. Але яна не здавалася, пісала ва ўсе інстанцыі з просьбаю, каб адбыўся над мужам паўторны суд. І ў 1940 годзе па хадайніцтве ўсё той жа Басі Цыпінай Пятра Шырокава і яго сяброў прывозяць у Мінск для «перагляду справы». З Мінска адпраўляюць у Чэрвень, дзе асуджаных і застае вайна.



Тодар Лебяда (стаіць у цэнтры), поруч з ім маці Н. Паедава і А. Канушкін, сядзяць злева направа — Е.Б. Шырокава (Бязрукава), з якой жыў у апошнія гады Лебяда, побач з ёй — Марыя і Міхаіл Дзёмкіны

Нямецкія самалёты ўжо бамбілі горад, таму савецкай уладзе было не да зняволеных. Так Тодар Лебяда са сваімі сябрамі апынуўся на волі. Гэты момант Масей Сяднёў занатаваў у сваёй паэме «Мая вайна» (зборнік «Патушаныя зоры», Нью-Ёрк — Мюнхен, 1975, с. 203–205):

*... Я падаў і плакаў...*
*— Ты што? —*
*пачуўся мне голас ласкавы*
*і нехта падаў паліто:*
*— Накрыйся й ляжы!*
*Апрытомнеў*
*І вочы падняў я — на крок*
*У ранішніх сонца промнях*
*Стаяў ад мяне Пятрок.*
*Той самы Пятрок, зь якім мы*
*вучыліся тры гады.*
*А потым экзамен ў Нарыме*
*трымалі за курс бяды.*



Тодар Лебяда, 1969 г.

А яшчэ Тодар Лебяда пісаў выдатныя вершы, якія не страцілі сваёй актуальнасці і каштоўнасці сёння. Вось некаторыя радкі і страфы з яго вершаў:

***

*Выйду зноў у ранняе прадвесне*
*Сустракаць цудоўную зару...*
*Для цябе сягоння мая песня,*
*Дарагая сэрцу Беларусь!..*
*На тваё на бацькаўскія гоні,*
*На палёў нязведаную шыр*
*Песню гордую Крывіцкае «Пагоні»*
*Я нясу ад шчырае душы...*

***

*Мядовыя ліпы у стройных прысадах,*
*І родны, знаёмы мне гай...*
*Ляці ж, мая думка, ляці, мая радасць,*
*На родны, далёкі курган!..*

***

*Мне лёсам вызначаны*
*Гэтакі прымус.*
*Аб шчасці сёння*
*Можна сніць і марыць*
*За тое,*
*Што я толькі — беларус —*
*Мне гэтакая кара!*
*Я кару іхную*
*З пагардаю прыняў,*
*Бо я — сын верны*
*Маці — Беларусі.*
*І я святога,*
*Гордага імя*
*Не адракуся!!!*

***

*Ой, пралягла*
*Чыгунка за Байкалам*
*Паміж узгор'яў*
*Роўна, бы абрус!*
*Цяпер на ёй*
*Амаль пад кожнай шпалай*
*Ляжыць замучаны*
*У выгнанні беларус...*




Першы паэтычны зборнік Тодара Лебяды

# ЧАКАЎ РАССТРЭЛУ

*Прасоўваліся па балотах*
*армейцы ваўчынай гайнёй.*
*І лёталі самалёты*
*чужыя над нашай зямлёй.*
*Быў горад далёка за намі,*
*Ад сажы і дыму густы.*
*Ішлі з Петраком мы жытамі,*
*ня ведаючы куды.*
*І ўспомнілі мы, што болей*
*канвою над намі няма,*
*што сапраўды на волю*
*нас выпусьціла турма.*
*І хоць мы турму гнаілі,*
*ды посьля пяцёх гадоў*
*здавалася нам, наіўным, —*
*мы сталі студэнтамі зноў.*
*Шумлівыя, светлыя залі,*
*прыемны студэнтак напеў.*
*Мы лепш, чым другія, пазналі*
*«Кароткі курс ВКП».*
*Прайшлі мы і з словам «нацдэмы»*
*па мёрзлай зямлі і вадзе.*
*Ня ведалі нашыя, дзе мы,*
*і думалі: можа, нідзе.*
*Ісьці не маглі мы болей,*
*супольна — рука ў руку:*
*мяне у вадным чакалі,*
*яго — у другім баку.*
*Заплакалі мы на ростань,*
*змораныя ад хады,*
*і разьвіталіся проста,*
*як нашы калісьці дзяды.*
*У памяці дзень той выцьвіў,*
*на музыку просіцца слоў...*
*Мой сябра пайшоў на Віцебск,*
*а я — на Магілёў...*

## Акупацыя

Пятро Шырокаў дабраўся да Віцебска, дзе жыла яго маці. Тут ён ізноў узяўся за пяро — пісаў вершы, апавяданні, драматычныя творы. Адначасова рэдагаваў газету «Беларускае слова», што выходзіла тры разы на месяц. У Віцебску была скончана і п'еса «Загубленае жыццё», якая ўпершыню была пастаўлена на сцэне Віцебскага драмтэатра. Дарэчы, у 1943 годзе беларускі рэжысёр Вячаслаў Селях-Качанскі ажыццявіў пастаноўку гэтай п'есы і на сцэне Мінскага гарадскога тэатра. Пазней, на эміграцыі ў Германіі, разам з кампазітарам Міколам Равенскім, ён арганізуе эстрадную групу «Жыве Беларусь» і зноў ажыццявіць пастаноўку «Загубленага жыцця». Вяртаўся да яе В. Селях-Качанскі і жывучы ў г. Элізабет (ЗША). У 1952 годзе ў Канадзе п'еса «Загубленае жыццё» выходзіць з друку асобным выданне. І толькі ў 1995 годзе яна была апублікавана на радзіме ў часопісе «Тэатральная Беларусь». Гэтая драма — першая антыбальшавіцкая п'еса ў беларускай літаратуры, якая праўдзіва паказвае гады калектывізацыі і сталінскіх рэпрэсій на Беларусі.

У акупаваным немцамі Віцебску Пятро Шырокаў рэгіструе шлюб з артысткаю Верай Жгут. Ён падтрымлівае цесныя сувязі з беларускімі акцёрамі і пісьменнікамі, часта наведвае Мінск. А ў 1944 годзе з друку выходзіць першы паэтычны зборнік Тодара Лебяды «Песні выгнання». Ва ўступе да яго напісана:

> «Беларускі народ многа перацярпеў гора і зьдзеку. Найбольш, аднак, прыйшлося цярпець за часоў бальшавіцкага панаваньня. Бальшавікі, накідаючы сваю волю беларускаму народу, жорстка перасьледавалі ўсіх тых беларусаў — сялян, работнікаў, інтэлігентаў, якія хацелі наладжваць жыцьцё ў Беларусі так, як хацеў беларускі народ. Бальшавікі саджалі беларускіх патрыётаў у вастрогі, канцэнтрацыйныя лягеры, высылалі ў далёкія азіяцкія краіны, адкуль бальшыня з іх ніколі ўжо ня вернецца, бо яны не змаглі пераждаць бальшавіцкіх зьдзекаў і тых жудасных абставінаў, у якія іх укінулі бальшавікі, і зламілі сваё жыцьцё, як ахвяру, на аўтар Бацькаўшчыны. Ёсьць, аднак, і такія людзі, якім удалося пераждаць бальшавіцкія зьдзекі, вырвацца з бальшавіцкіх кіпцюроў і зьявіцца ізноў на беларускую ніву да працы дзеля дабра беларускага народу. Да гэткіх шчасьліўцаў належыць між іншых малады беларускі паэт Тодар Лебяда. Яму ўдалося вырвацца з бальшавіцкіх рук, захаваць жыцьцё, і цяпер ён плённа працуе на беларускай культурнай ніве... Зборнік гэты мае вялікія мастацкія вартасьці і ёсьць дакумэнтам тых усіх жудасьцяў, якія мусілі пераждаць беларусы ад бальшавікоў і да паўтарэньня якіх беларускі народ ніколі ня можа дапусьціцца»:

*Пад вакном за выцвілай, за брамай*
*Расцвітаў ізноў прыгожы май.*
*Трэці год, як сына ўжо забралі,*
*Трэці год, як роднага няма.*
*Як забралі — весці не пачула...*
*І на твары роспач і адчай.*
*Трэці год, як бедная матуля*
*Перастала спаці па начах.*
*Поўнач. Стукнуў хтосьці. Хто там?*
*Гэта сон ... Але ж пасля сама*
*Выбягае хутка за вароты, —*
*Прыглядаецца... глядзіць вакол... няма.*
*Той жа ночы дзесьці на чужыне*
*Родны сын яе навек спачыў.*
*І дарма матуля варажыла*
*Пад акном сядзела уначы.*

## Уцякач

У 1944 годзе, падчас адступлення немцаў, Тодар Лебяда вырашыў уцячы на Захад. Ён добра ведаў, што зноў чакаюць сталінскія рэпрэсіі. Спачатку быў Берлін, пасля Прусія, дзе ён разам з жонкаю Верай Жгут уладкоўваецца на працу да аднаго баўэра.

Як жылося і працавалася ім там, сведчыць адзін ліст Тодара Лебяды да Масея Сяднёва. У свой час гэты ліст Сяднёў праслаў мне, ён захоўваецца ў маім хатнім архіве:

> «Здароў, Масей! Сёньня атрымалі ад цябе першы ліст і былі бясконца рады. Малайчына, што не застаўся ў Беластоку! Аб нас ты ўжо напэўна тое-сёе чуў. Жывем з Валодзькам (Клішэвічам — С.Ч.) у аднаго баўэра, працуем у яго: косім, чысьцім гной і г. далей, за што маем ад яго кавалак хлеба. Калі казаць аб нашым жыцьці, дык пра ўсё можна выказаць адным словам — сытыя. Больш нічога. Ніякай духоўнай стравы. Рана ўстаем, ідзем на працу, прыходзім з працы — вячэраем і кладземся спаць, каб заўтра ісьці зноў на працу. Гэтаксама жыве і Віцьбіч. Ён толькі за чатыры вярсты ад нас. Пісалі мы некалькі лістоў у Бэрлін, але адказу не атрымалі, што яшчэ раз пацьвярджае думку аб нашых беларусах: калі сам сыты, дык аб галодных не спагадае. Я гэта адчуў яшчэ на Бацькаўшчыне, а цяпер гэта лішні раз толькі пацьвярджаецца. Мы — беларусы такімі адносінамі (панскімі) да людзей дабіліся таго, што нам ужо мала хто й верыць, аб чым бы мы ні казалі.
>
> Вось мы сёньня радуемся з Валодзькам, што ты зараз у Бэрліне. Ты — не такі, як нашыя астатнія беларусы. Будзем спадзявацца, што ты дзе-небудзь, калі-небудзь і закінеш там за нас слова. Галоўнае — каб ты не забываўся пра нас і пісаў нам лісты, дасылаў газэты (як мага акуратней) і па магчымасьці іншую літаратуру, бо мы зараз анічога ня маем. Атрымалі адзін нумар «Раніцы» ад сп. Караленкі, за што вельмі шчыра яму ўдзячны.
>
> Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасьля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цьвікоў нацягалі са сьцен і з старых дошак.
>
> Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасьцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч.
>
> Калі ты ўведаеш аб нашых паэтах Л. Случаніну, Золаку, Алесю Салаўю, або ўведаеш, дзе зараз П. Манькоў, не забывай паведаміць. Устрой, Масей, для мяне, калі ласка, у «Раніцу» аб'яву: шукаю дачку Аляксандру Шырокаву — 8 год, і маці Настассю Паедаву, якія апошнія часы знаходзіліся ў мястэчку Лентварова Віленскай акругі. Паведаміць праз газэту «Раніца» — Тодару Лебядзе. Аб'яву гэтую перарабляй, як хочаш. Я падаў толькі сэнс. Тодар Лебяда».

Цяжка сказаць, ці была гэтая аб'яўка ў «Раніцы», а вось невялікая рэцэнзія М. Сяднёва на зборнік «Песні выгнання» была ў свой час надрукавана ў «Новай дарозе» (Беласток).

## Зноў рэпрэсіі

Пасля Прусіі сляды Пятра Шырокава на пэўны час губляюцца. Хадзілі чуткі, што ён, з'агітаваны савецкім афіцэрам, вярнуўся да Басі Цыпінай і да сваёй дачкі Алесі. Але гэтае вяртанне шчасця яму не прынесла. У маі 1947 года Ваенным Трыбуналам войск МУС Мінскай вобласці па арт. 63-1 КК БССР Шырокаў Пётр Фёдаравіч зноў быў асуджаны, на гэты раз на 25 гадоў.

Дарэчы, у 1994 годзе ў горадзе Чэрвені Мінскай вобласці я адшукаў дачку Тодара Лебяды Алу (Алесю) Пятроўну Козел. У адным з пісем яна пісала, што бацьку тады прыгаварылі не на 25 гадоў, а да вышэйшай меры пакарання «за измену Родине».

> «І бацька два тыдні сядзеў у смяротнай камеры-адзіночцы і кожную хвіліну чакаў, што вось за ім прыйдуць. Але страху ўжо не было. Толькі б хутчэй. Ён расказваў пазней, што яму здавалася, быццам у камеру прыходзяць невядомыя і людзі блізкія, якія ўжо памерлі, і супакойвалі, суцяшалі. І тут раптам ноччу бразнулі запоры, і ў камеру зайшлі тры чалавекі, яны былі ўзброеныя. Загадалі ўстаць і зачыталі ўказ Сталіна аб замене «смерной казни» дванцацю пяццю гадамі зняволення. «Падкасіліся ногі, сеў, дзе стаяў. А ў галаве адна думка: буду жыць!» — так расказваў мне бацька ў 1956 годзе», — пісала мне ў адным з пісем Ала Козел.



Валянцін Таўлай, Сяргей Хмара, Тодар Лебяда, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Уладзімер Сядура, Хведар Ільляшэвіч, Аляксей Анішчык. Мінск, 1944 г.

У якіх раёнах Сібіры адбываў свой тэрмін беларускі пісьменнік Тодар Лебяда, пакуль не вядома. Вядома толькі, што 30 жніўня 1956 года ён быў вызвалены з-пад варты, але ў Беларусь вяртацца яму не дазволілі, таму прыйшлося ўладкавацца цырульнікам у адным з пасялковых дамоў афіцэраў, а таксама працаваць на іншых работах.

## 10 апошніх гадоў

І толькі ў 1960 годзе ён прыязджае ў горад Слонім, уладкоўваецца працаваць рэзчыкам паперы на мясцовую кардонна-папяровую фабрыку «Альбярцін». А ў вольны ад працы час Тодар Лебяда па-ранейшаму піша вершы, апавяданні і п'есы. Сёе-тое друкуе ў слонімскай раённай газеце «Вольная праца». Але пра свой псеўданім Пятро Шырокаў нікому нічога не казаў, як і пра выдадзеную ім у 1944 годзе кнігу вершаў.

Быў заўсёды маўклівы і даволі просты. Вельмі хацеў стварыць на фабрыцы драматычны гуртток, каб ставіць свае п'есы. Дарэчы, у Слоніме ён напісаў п'есу ў трох актах «У нас, на Гродзеншчыне», прысвечаную вясковаму жыццю моладзі. У гэты час было напісана і некалькі аднаактовых п'есак. Адна з іх — «Людзі ва Хрысце» — была надрукавана ў «Вольнай працы». Валодаў Тодар Лебяда і жанрам апавядання. Асабліва яму ўдаваліся гумарыстычныя апавяданні і абразкі на маральна-этычныя тэмы.

Жывучы ў Слоніме, Пятрок Шырокаў пачынае шукаць сваіх старых сяброў. Былы рэдактар беластоцкага беларускага тыднёвіка «Ніва» Георгій Валкавыцкі захаваў і перадаў мне пры жыцці пісьмо Пятра Шырокава ў «Ніву», дзе ён, у прыватнасці, пісаў:

> «Паважаная рэдакцыя! Праглядаючы архівы Вашай газеты за мінулыя гады, я знайшоў у ёй надрукаваныя вершы майго блізкага сябра па інстытуце Уладзіміра Клішэвіча, якога я лічыў загінуўшым у часы Другой сусветнай вайны. Быў бы Вам вельмі ўдзячны, калі б Вы паведамілі мне аб яго цяперашнім месцажыхарстве альбо даслалі яму мой хатні адрас: БССР, Гродзенская вобласць, г. Слонім, пас. Альбярцін, вул. 17 верасня, д. 3. З нецярпеннем чакаю Вашага адказу. З пашанай — Шырокаў Пётр Фёдаравіч. 2.V.61 г.».

Просьбу яго рэдакцыя выканала. Уладзімір Клішэвіч і Тодар Лебяда знайшлі адзін аднаго. Яны перапісваліся, бо ў адным з пісьмаў да Клішэвіча Пятро нават хваліўся перад ім, што стаў ужо дзедам...

1 студзеня 1962 года Пятро Шырокаў звольніўся з работы і назаўсёды пакінуў Слонім. Ён прыехаў у горад Чэрвень Мінскай вобласці і ўладкаваўся на працу сакратаром у рэдакцыю раённай газеты «Уперад». Там піша вершы, фельетоны, гумарэскі. Друкуецца не толькі ў сваёй газеце, але дасылае творы і ў рэспубліканскія выданні. Праўда, падпісваецца ўжо другім псеўданімам — Клім Каліна.

У канцы 1962 года Тодар Лебяда пакідае Беларусь і ад'язджае на Разаншчыну ў Расію да знаёмай жанчыны. З ёю наш зямляк пражыў сем гадоў. Там ён пабудаваў дом, пасадзіў сад. Але гады сталінскіх рэпрэсій далі аб сабе знаць. Тодар Лебяда перанёс два інфаркты і напачатку 1970 года памёр. Яго пахавалі ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага раёна Разанскай вобласці.

***

Да ўсяго сказанага пра двойчы рэпрэсаванага беларускага пісьменніка Тодара Лебяду хочацца дадаць, што перачытваючы сёння пісьмы дачкі Тодара Лебяды Алы Козел, напісаныя ёю да аўтара гэтых радкоў у 1994 годзе, знайшоў такія радкі:

> «Бацька быў цікавы і шчыры чалавек, валодаў вялікімі гуманітарнымі ведамі, добра спяваў, у яго быў вельмі нізкі густы бас. Спяваў толькі беларускія песні «Ці ўсе лугі пакошаны», «Ой, у полі вярба», «Ой, пайду я лугам, лугам» і многія іншыя народныя песні. Быў вялікім патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, любіў усё беларускае: і зямлю нашу, і людзей, і народныя звычаі...».

**Фотаздымкі і дакументы з архіва аўтара**

ІМПРЭЗА



# КАЛЯДЫ ПА-ГАРАДСКОМУ

**У клубе «Re:Public» 6 студзеня вадзілі казу і мядзведзя, танчылі польку ды спявалі калядкі. На фестывалі выступілі гурты «Lity Taler», «Ветах», «Альтанка», «Guda», а таксама «Палац».**

Ужо 15-ы год запар Алег Хаменка спрабуе адраджаць у гарадской прасторы самае прыгожае свята, якое для беларусаў, на жаль, саступае Новаму году. Сёлета ўпершыню калядавалі не ў канцэртнай зале, а ў клубе, каб зрабіць дзею больш інтэрактыўнай.

«У вёсцы калядуюць да гэтага часу. Нават да мяне ў кватэру звоняць суседскія дзеткі. Яны ведаюць, што мне трэба калядкі спяваць, — кажа Алег Хаменка. — Увогуле, Каляды павінныя святкавацца на кожнай канцэртнай пляцоўцы, у кожным клубе, а па галоўным праспекце Мінска павіннае ісці святочнае шэсце. Вядома, пакуль гэтага няма. Але мы імкнёмся даць прыклад, як можна святкаваць».

У адчайным памкненні змусіць як мага большую колькасць гасцей праявіць фантазію ды ўліцца ў калядны карнавал Хаменка нават паабяцаў мільён рублёў за найлепшы касцюм. Што праўда, разварушыць публіку не так проста, і ў клубе можна было пабачыць толькі рэдкіх прынцэс, козачак, вавёрак, пажоў і людзей у вышыванках. Прыз, дарэчы, дастаўся дзвюм дзяўчынкам — Патрыцыі і Веры, — якія прыйшлі ў касцюмах калядоўшчыцы і маленькай козачкі з бліскучай валачобнай зоркай у руках.

«Мы ж ведаем, што рабіць на Хэлаўін — прыйсці ў клуб, апрануцца ў чорнае і скокаць як дурныя. Нават ведаем, што рабіць на Святога Патрыка. Але што рабіць на Каляды, пакуль што не ведаем, — кажа лідар гурта «Палац». — А трэба таксама апранацца ў касцюмы, ладзіць святочны карнавал, павінныя быць калядныя спевы, бліны, аладкі, гульні».

Першыя госці з'явіліся пад гурт «Альтанка», салістка ў распіснай сукенцы і чырвоных ботах пад акампанемент домраў ды мандалінаў бойка спявала пра святы вечар ды казу, якую з'елі, часам у стылі кантры, весела прытанцоўваючы. Музыка Віталь Шкілёнак па-руску дзякаваў публіцы і тлумачыў змест некаторых песень, напрыклад, пра жонку і мужа, якія, «як усе рыначнікі, выпівалі, жонка пабіла лыжкі і талеркі, а пасля пабіла мужа». «Песня напісаная на палескім дыялекце, многія словы ўвогуле немагчыма разабраць», — дадаў ён.

Пад сярэднявечную музыку «Lity Taler» у залу, быццам на пышны бал, чынна заходзілі сямейныя пары і рассаджваліся за столікі. Нягледзячы на тое, што арганізатары з усіх сілаў намагаліся прыцягнуць шырокую публіку, сустрэць Каляды ў асноўным прыйшлі прадстаўнікі бамонду: тут можна было пабачыць, напрыклад, пісьменніка Віктара Марціновіча, паэта Віталя Рыжкова, рэкламшчыцу Юлію Ляшкевіч, эканаміста Сяргея Чалага, спявачку Ірэну Катвіцкую, пісьменніцу Людмілу Рублеўскую ды іншых вядомых асобаў.

Праз усю залу з агнямі і барабанамі ўслед за саламянай зоркай пракацілася шумнае і стракатае каляднае шэсце. Усё было як след: каза памірала і ажывала, мядзведзь няўклюдна танчыў ды паказваў, як хлопцы заляцаюцца да дзяўчат.

Хэдлайнерам вечара традыцыйна стаў гурт «Палац». Музыкі выканалі кампазіцыі з апошняга альбома «Кола грукатала», а таксама некаторыя даўно забытыя, як, да прыкладу, вясельную песню «Манечка», якую не спявалі з 1994 года. Святочны вечар скончыўся, вядома ж, каляднымі песнямі «Палаца».

**Паводле budzma.by**

КАЛЯНДАР

# БРАМА НЕЎМІРУЧАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

Аляксей КАРОЛЬ

**Да шэрагу сваіх подзвігаў на ніве адраджэння беларускай гісторыі пісьменнік Уладзімір Арлоў дадаў яшчэ адзін: падрыхтаваў каляндар на 2014 год пад назвай «Брама навук і мастацтваў нязнаных. Культурны ўплыў Беларусі на Расію ў XVI–XVIII стагоддзях».**




Прычым, у трох варыянтах — вялікім насценным, перакідным настольным і мініяцюрным кішэнным. Каляндар з'явіўся дзякуючы ў тым ліку дапамозе Белзнешэканомбанка. Гэта не першы беларускі асветніцкі праект, падтрыманы банкам, што сцвярджае за ім адметную ролю ў найноўшай гісторыі Беларусі. Як з цеплынёй пракаментаваў спадар Уладзімір: «Там ёсць два беларускамоўныя хлопцы, якія любяць і сваю справу і Беларусь».

12 месяцаў — 12 выбітных асоб і падзей з кіпеню гісторыі трох стагоддзяў. Сціслы тэкст, які цудоўным чынам спалучае ў сабе дакладную інфармацыю з прыгожым пісьменствам. Трапны падбор ілюстрацый (Зміцер Герасімовіч), які не толькі пашырае аб'ём інфармацыі, але і насычае яе эмацыйным рэхам з мінулых эпох. Выразныя мастацкія фота (Георгій Ліхтаровіч), што дзіўным чынам накладаюць сучасны ракурс на гістарычны.

Працытую ключавы абзац з прадмовы Уладзіміра Арлова, які вызначае, на мой погляд, аўтарскую канцэпцыю не толькі календара:

«У XVI–XVIII стст. вызначальным быў уплыў Беларусі. Яна зведала ў сваёй гісторыі Рэнесанс і Рэфармацыю, што акрэслілі далейшы рух еўрапейскай цывілізацыі. Якраз Беларусь служыла для Расіі своеасаблівым брамай у Еўропу, адкуль прыходзілі перадавыя ідэі, прагрэсіўныя тэхналогіі, новыя віды мастацтва».

Аўтары ўдала скарысталіся асаблівасцямі псіхалогіі візуальнага ўспрыняцця тэксту. Кожны месяц (старонка) пачынаецца з паўтору назвы календара, за якім ідзе пытанне: Ці ведаеце вы:

– што расійскі першадрукар Іван Фёдараў быў беларусам?
– што беларусы запачаткавалі ў Масковіі мастацтва скульптуры?
– што нашы майстры прывезлі ў Расію сакрэт вытворчасці шматколернай кафлі?
– што знакамітую «Цар-гармату» адліў беларус Андрэй Чохаў?
– што Новаіерусалімскі манастыр на Істры — плён працы беларускіх талентаў?

Гэтыя набраныя стылізаваным пад старадрук шрыфтам радкі міжволі будзеш прабягаць кожны раз, як давядзецца ўдакладняць патрэбную дату па надзённых справах. Нават калі няма часу перагарнуць старонку, інфармацыя міжволі адаб'ецца ў кодах памяці. Але ж, хутчэй за ўсё, зачэпіць, завабіць перавярнуць старонку, каб даведацца падрабязнасці. А некага ж і звярнуцца за дадатковай інфармацыяй — да кніг, да інтэрнэту.

12 пытанняў правакуюць і крамольнае 13-е: «А якім жа чынам гэты культурны ўплыў Беларусі на Расію суадносіцца з імперскай палітыкай Расіі ў адносінах Беларусі, якая цягнецца да сёння?» Але гэта ўжо другая гісторыя.

Каляндар на 2014 год. Але, думаю, і вечны каляндар. Наўрад ці той, хто яго прыдбаў, выкіне яго напрыканцы года. Гэты каляндар валодае яшчэ і ўсімі якасцямі кнігі па гісторыі, энцыклапедычнага даведніка, мае вартасць сваім багаццем рэдкіх ілюстрацый.

ЛІСТ У НУМАР

# ГОД АРШАНСКАГА КАНЯ

Леанід ДАЙНЕКА

**2014 год, як навучаюць нас усходнія астролагі, — Год Каня, сіняга і драўлянага. Але ж гэта Год Аршанскага Каня! Чаму, спытаецеся вы?**

Сёлета мы адзначаем 500-годдзе славутай Аршанскай бітвы! 8 верасня 1514 года войска нашай тагачаснай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага пад вяршэнствам гетмана Канстанціна Іванавіча Астрожскага пад горадам Оршай над ракой Крапіўнай ушчэнт разграміла агромністую васьмідзесяцітысячную маскавіцкую раць.

Тады была пятніца. Тады быў Дзень Нараджэння Прачыстай Багародзіцы Дзевы Марыі. Сонца было ў сузор'і Дзевы. Яно ўзышло ў той дзень у 7 гадзін 4 хвіліны. Зайшло (для шмат каго назаўсёды) у 18 гадзін 56 хвілін. Аб гэтай лёсавырашальнай бітве я пісаў у сваім рамане «Назаві сына Канстанцінам». Тых, хто зацікавіўся, адсылаю да гэтай кнігі.

Чаму ж усё ж такі менавіта конь праславіўся падчас той крывавай сечы? А таму што вершнікі і артылерысты Канстанціна Іванавіча Астрожскага скрышылі, здаецца, непахісную сцяну фанабэрыстага маскавіцкага войска, раздзяўбілі яе на горкі пыл.

Конь, як і ягоны гаспадар-вершнік, — галоўная фігура бою. Войскі конь, прывучаны да агню, крыві і стралянін, імчыцца ўперад, як няўтрымны магутны таран, зразае цяжкімі капытамі ворага. Сваім тулавам, сваёй шыяй і галавой ён прыкрывае вершніка, служыць яму шчытом. Шмат якія раны, што, вядома ж, атрымаў бы чалавек, атрымоўвае конь. Каня калечаць. Каня забіваюць. Белымі конскімі чарапамі высланыя прасторы Еўропы і Азіі.

Узнімем жа чаркі за Год Аршанскага Каня! Уславім той слаўны векапомны дзень, калі Нашы разбілі Іхніх. Не будзем замоўчваць сваю Перамогу. Такі быў Час. Такі быў Век. І нашы гераічныя продкі ліцвіны-беларусы, баронячы свой край, разграмілі нязваных прыхадняў з Усходу.

Гэта не азначае, што мы — ворагі рускім або якім-небудзь іншым народам. Мы — ворагі захопнікам. Гэта азначае, што мы — народ, самабытны, са сваёй гісторыяй, якая вельмі часта пісалася крывёю.

Я ведаю, што нашая сённяшняя ўлада, пэўна ж, не будзе адзначаць гэтую дату, пастараецца не заўважыць яе. Я нават дапускаю, што некаторыя нашы сённяшнія чыноўнікі ў той бітве былі б не пад сцягам Канстанціна Астрожскага, а пад сцягам маскоўскага ваяводы Івана Чалядніна. Кожны, урэшце, сам абірае рэчышча свайго жыцця, сам будуе яго. Але ўсе мы, хто пачувае сябе беларусамі, хто ганарыцца сваім мужным народам, з радасцю адзначым гэты дзень. Напаўняйце келіхі віном! Едзьце, хто зможа, на тое гераічнае аршанскае поле, паслухайце, як звініць там вецер вечнасці. А ў цесным сяброўскім коле паслухайце кружэлку — Зміцер Сасноўскі разам са сваім гуртом «Стары Ольса» натхнёна праспявае песню пра Аршанскую бітву.

*Над краем кружаць крумкачы.*
*Пячэ душу чужы агонь.*
*Гучней іржы, у бой імчы,*
*Аршанскі конь!*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК. Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ. Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 32

Падпісана да друку 10.01.2014. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.